*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 14 (278) | 3 красавіка 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў

ЁН УВАСКРОС Стар. 5.

УСПАМІНАЮЧЫ ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **22 САКАВІКА Ў СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ НАСТАЎНІКА АДБЫЛАСЯ ГЕНЕРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ (УСТАНОЎЧЫ СХОД) ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ.** Удзельнікамі яе сталі некалькі дзесяткаў чалавек — пераважна прадстаўнікі ўтвораных раней першасных суполак ТБШ, а таксама прысутныя госці — сябры Таварыства беларускай школы Летувы. Асамблеяй быў прыняты статут ТБШ, абраныя кіруючыя органы арганізацыі. Прэзідэнтам Таварыства аднагалосна абраны Генадзь Пятроўскі.

○ ***У МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ*** *«Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты», якую наладзіла і правяло Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Матэрыялы з гэтай канферэнцыі будуць надрукаваны ў «Нашым слове» ў бліжэйшых нумарах.*

○ **У ДЗЯРЖАЎНЫМ КАМІТЭЦЕ ПА ДРУКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ РАЗГЛЕДЖАНЫ ПЫТАННІ**, звязаныя з друкаваннем некаторых выданняў за межамі нашай краіны. Таму ў хуткім часе, магчыма, газеты, якія друкуюцца ў Вільні, будуць друкавацца ў Менску. Але зноў ці надоўга гэта ўсё?

○ ***У МЭТАХ ЗАХАВАННЯ КАНВЕНЦЫІ ААН АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ І ВЫКАНАННЯ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ» ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СВАІМ УКАЗАМ ПАСТАНАВІЎ*** *стварыць Нацыянальную камісію па правах дзіцяці, зацвердзіў палажэнне аб камісіі і яе склад.*

○ **АФІЦЫЙНЫ ЎЗРОВЕНЬ БЕСПРАЦОЎЯ НА ПАЧАТАК САКАВІКА Ў НАШАЙ КРАІНЕ СКЛАЎ 2,82 ПРАЦЭНТА.** Гэты паказчык вырас ва ўсіх абласцях, але асабліва ў Менску — да 3,6 працэнта.

○ ***УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ*** *намеснікамі міністра культуры назначаны Юрый Цвяткоў і Юрый Стральчонак. Віншуем!*

○ **АНСАМБЛЬ «ПЕСНЯРЫ» АПОШНІМ ЧАСАМ ПРАЦУЕ НАД НОВАЙ ПРАГРАМАЙ.** Адна з песень з гэтай праграмы нядаўна прагучала ў «Радыёфакце». На жаль, на расійскай мове. У такім выпадку: ці застануцца «Песняры» тымі «Песнярамі», якіх любіў увесь наш народ?

**Мы шануем і паважаем вялікі расійскі народ, з яго вялікай культурай і не меней пакутнай гісторыяй, мы за Расію Сахарава, Кавалёва, як вялікіх дэмакратаў і гуманістаў мінулага і сучаснага. Але мы ніколі не прымем Расію чырвона-карычневую.**

**З прамовы Васіля Быкава на мітынгу 24 сакавіка.**

# *Велікодным днём памолімся за Беларусь!*



# КВЕТКІ І КРОЎ У ДЗЕНЬ СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

78-годдзе абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ўрачыста адзначалася ўсімі свядомымі беларусамі паўсюдна. Асабліва грандыёзнай і ў той жа час драматычнай стала гэта падзея ў Менску. Ужо к 12 гадзінам апоўдні ў нядзелю 24 сакавіка каля плошчы Незалежнасці ўтварылася сапраўднае чалавечае мора з морам бел-чырвона-белых сцягоў. Менчукі ішлі і ішлі сюды, каб разам рушыць да плошчы Парыжскай Камуны ля Опернага тэатра. Перыметр плошчы Незалежнасці аказаўся ачэплены ўзмоцненымі кардонамі спецвойскаў і міліцыі, людзей не прапускаюць і ў падземныя пераходы. Таму нават прайсці ў бок Галоўпаштамта ў накірунку да плошчы Парыжскай Камуны складана: праспект Скарыны таксама сцерагуць спецвойскі. Частка гараджан вырашыла ісці паралельнай вуліцай — Карла Маркса, але там таксама людзям перашкаджаюць амонаўцы, відаць, баяцца, што народ рушыць да Прэзідэнцкага палаца. Пераважная частка народа ўсё ж ідзе



на праспект Скарыны. Тых, хто ўперадзе, спрабуюць сілай спыніць амонаўцы, якіх падштурхоўваюць ззаду старшыя афіцэры. Некаторых не толькі адціскаюць, але і б'юць дубінкамі. Б'юць прафесара, доктара тэхнічных навук, ветэрана і інваліда Айчыннай вайны А.А.Саламонава, іншых. І ўсё ж паступова праспект Скарыны напаўняецца людзьмі з бел-чырвона-белымі сцягамі. Людская хваля нарастае. Добрую палову тых, хто прыйшоў на святкаванне, складала моладзь. Некаторыя прыйшлі сем'ямі з малымі дзецьмі. Старыя вялі за руку ўнукаў. Сцягі, транспаранты, кветкі, усмешкі і беларуская мова па ўсім праспекце Скарыны. Людзі скандыруюць: «Незалежнасць! Жыве вольная Беларусь!» Сэнс гэтых слоў стаў і зместам многіх прамоў у часе мітынгу на плошчы Парыжскай Камуны, якія 6 палітычныя партыі ці грамадскія аб'яднанні ні прадстаўлялі выступоўцы. «Здаць, прадаць незалежнасць Беларусі — гэта злачынства супраць народа, будучыні нацыі», — гавораць яны. Станіслаў Багданкевіч , Ніл Гілевіч, Зянон Пазьняк, Юрый Хадыка, Мікалай Крукоўскі, Анатоль Гурыновіч і іншыя выступоўцы падкрэслівалі, што нельга гандляваць суверэнітэтам, нават калі нехта абяцае каўбасу, нельга кідаць Беларусь у пашчу імперцам. На мітынгу прымаецца адпаведная рэзалюцыя і рашэнне накіраваць прадстаўнікоў на Беларускае тэлебачанне, каб ад імя менчукоў павіншаваць суайчыннікаў са святам нацыянальнай незалежнасці. Суправаджаць дэлегацыю вырашылі тысячы людзей, якія і занялі ўсю прастору паміж будынкам Тэлецэнтра і ўзбярэжжам Свіслачы. Пакуль вяліся перамовы з кіраўнікамі тэлевізіі, людзей ачапілі спецназаўцы ў масках са шчытамі і дубінкамі, амонаўцы. Пачалі грубай сілай саштурхваць людзей да ракі. Кіраўнікі мітынгу прапанавалі людзям адыходзіць. Але выйсці з ланцуга спецназаўцаў было няпроста. Людзей білі дубінкамі, нагамі, пырскалі ім у твары газам з балончыкаў.

Паляванне на дэманстрантаў працягвалася і на праспекце Скарыны, куды людзі выходзілі. Апошняя дзея гэтай драмы разыгралася на скрыжаванні вуліцы Камсамольскай з праспектам Скарыны. Людзей зноў білі і труцілі газам. Асабліва заўзята вайскоўцы ў камуфляжы палявалі на тых, хто размаўляў на беларускай мове. Білі жанчын, старых, дзяўчат. Некаторыя заставаліся ляжаць на зямлі, збітыя да непрытомнага стану. Побач з раскіданымі кветкамі з'явіліся плямы крыві. Пачалася паніка. Было ўражанне, што ідуць нейкія буйнамаштабныя баявыя дзеянні ў цэнтры Менска. Упершыню з многім памятнага мітынгу на Дзяды 1988 г. была ўжыта ў такіх маштабах сіла супраць безабаронных беларусаў. Вечар 24 сакавіка 1996 года будзе народам асэнсоўвацца яшчэ доўга. Незалежнасць, дзяржаўнасць роднай мовы і нацыянальны гонар каштуюць дорага. У гэтым беларусы пераконваюцца на ўласным вопыце.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

Як стала вядома, у гэты дзень у бальніцы з пабітай галавой апынуўся прафесар эканамічнага універсітэта Мікола Савіцкі, старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ.

# Пагадненне падпісана, але пытанні застаюцца

Адыход у апошнія гады дзяржаўнай улады ад афіцыйнай ідэалогіі т.зв. «навуковага атэізму» — факт, безумоўна, станоўчы, але зараз ужо назіраецца схільнасць чыноўнікаў высокага рангу да іншай скрайнасці. А менавіта, да спробы надаць праваслаўнай царкве калі не дзяржаўны статус, то, прынамсі, прыярытэтны адносна іншых традыцыйных канфесій. Хаця Канстытуцыя нашай краіны і гарантуе роўнасць канфесій, на яе, як гэта прынята ў нас апошнім часам, ніхто не зважае. Ці да Канстытуцыі тут, калі некаму з начальства так карціць зліцца ў адзіную супольнасць з усходнім суседам. І карта «гістарычнай еднасці праваслаўных народаўбратоў» гуляе ў гэтых інтэграцыйных памкненнях далёка не апошнюю роль.

Нядаўна Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве з Беларускім экзархатам праваслаўнай царквы. На першы погляд, звычайная шэраговая падзея, не вельмі вартая асаблівай увагі, але, на жаль, некаторыя палажэнні гэтага пагаднення пакідаюць шмат пытанняў.

Безумоўна, праваслаўная царква, як і іншыя традыцыйныя канфесіі, мае натуральнае права ўдзельнічаць у адукацыйным працэсе навучальных устаноў краіны. І можна было б толькі парадавацца, што праваслаўныя першымі рэалізавалі сваё права і знайшлі добрае паразуменне з Міністэрствам адукацыі. Але пытанні, якія паўстаюць літаральна з першага пункту гэтага пагаднення, насцярожваюць. «Здзейсніць у Рэспубліцы Беларусь традыцыйны еўрапейскі прынцып дыферэнцыяванага статуса рэлігій, канфесій і веравучэнняў у сувязі з адносінамі апошніх да культуры ў цэлым і дзяржаўна-адукацыйных праграмаў, у прыватнасці (нават пры наяўнасці формаў роўнасці рэлігій, канфесій і веравучэнняў перад законам)». Фармальна, можна патлумачыць рацыю гэтага пункту небяспекай пранікнення ў сферу адукацыі рознага роду псеўдарэлігійных сектаў і нетрадыцыйных веравучэнняў, далёкіх ад нашай культурнай традыцыі. Але досвед паказвае, што нашыя чыноўнікі любы закон трактуюць, як захочуць, а дакладней, падмяняюць яго мэтазгоднасцю. Ліпеньская пастанова Кабінета Міністраў РБ «Аб парадку рэгістрацыі і дзейнасці на тэрыторыі Беларусі замежных місіянераў» таксама дэкларавалася, як абарона ад наплыву ў нашу краіну прадстаўнікоў таталітарных сектаў. Дзеянне гэтай пастановы ў першую чаргу адчулі на сабе каталіцкія святары, якіх ніяк нельга залічыць да прадстаўнікоў нетрадыцыйнай для Беларусі канфесіі.

Ствараецца ўражанне, што цяпер толькі са згоды праваслаўнай царквы іншыя хрысціянскія дэнамінацыі змогуць трапіць у сярэднюю і вышэйшую школы. Напрыклад, з тэксту пункту палажэння не зразумець, механізм прызнання якіх дыпломаў збіраюцца распрацоўваць экзархат разам з міністэрствам. Калі толькі праваслаўных устаноў — тады цалкам зразумела, а калі іншых канфесій, то якое дачыненне да гэтага мае праваслаўная царква?

Чаму падрыхтоўка рэалізацыі канцэпцыі ўдзелу ў навуковым і вучэбным працэсе дзяржаўных навучальных устаноў не толькі праваслаўнай, але і іншых канфесій абумоўліваецца гэтым двухбаковым пагадненнем?

Калі Міністэрства адукацыі і сапраўды не збіраецца аддаваць перавагу ў сферы рэлігійнай асветы толькі праваслаўнай царкве, а імкнецца да нармальнага супрацоўніцтва з усімі традыцыйнымі канфесіямі, то двухбаковыя пагадненні трэба заключыць з кожнай з іх. Тады пытанні, закранутыя тут, адпадуць самі сабой.

Нягледзячы на ўсе намаганні, атрымаць кампетэнтны каментар ад прадстаўнікоў Міністэрства адукацыі і навукі РБ не ўдалося. Чыноўнікі не выказалі асаблівага жадання каменціраваць гэты дакумент. Будзем спадзявацца, што ўсё ж такі нашыя чытачы змогуць азнаёміцца з думкай прадстаўнікоў міністэрства ў наступных нумарах газеты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**



У менскім Доме літаратара адбылося адкрыццё «Тыдня дзіцячай кнігі». Сюды прыйшлі вядомыя дзіцячыя пісьменнікі, паэты і кампазітары.

**На здымку:** Дзеці гутараць з паэтам **Васілём Жуковічам**, кампазітарам **Святланай Галкінай** і паэтам **Уладзімірам Карызнам**.

**Фотаздымак Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

*Чытачы пра «Наша слова»*

## Газеты няма ў кіёсках

Нягледзячы на дастаткова нізкі кошт падпіскі, у газеты невялікі тыраж, што вельмі шкада. Гэта не толькі з-за ўціску на беларускую мову, але яшчэ і таму, што газеты няма ў кіёсках. Хтосьці, дапусцім, з ранейшых падпісчыкаў чамусьці расчараваўся ці яшчэ якая прычына, а дзе даведацца аб ёй іншым. Упэўнены, каб кіяскёры яе належным чынам выстаўлялі, яна нармальна раскуплялася б. Але галоўнае — з ёю можна было б кожнаму ў любы час пазнаёміцца. А так дзе? Па каталогу мала што даznаешся.

Прапаную таксама больш пісаць па гісторыі і частку плошчы перавтварыць ва універсальны дапаможнік па беларускай мове і літаратуры. Прычым рабіць трэба як мага прасцей. А то зараз частка матэрыялаў разлічана на «вяршкі» інтэлігенцыі. Не трэба тут ісці шляхам «Нашай нівы». Я не ведаю, добра гэта ці дрэнна, калі рэдакцыя разлічвае на эліту, але для распаўсюджвання нашых ідэй у народным асяродку гэта не спрые. Так мы аказваемся і сапраўды іншым разам «вельмі далёкімі ад народа».

**Юрый КЛІНЦОЎ,**
**сябра Гомельскай абласной Рады ТБМ.**

## Рэклама газеты — беларуская элітарнасць

За два гады знаёмства (з'яўляюся сталым падпісчыкам з 1994 года) заўважаю, што газета значна палепшылася. Знаходжу для сябе многа карыснага і цікавага. Таму і наклад «НС» павінен значна павялічыцца. Але, на жаль, гэтага не адбываецца. Прычыналічу адсутнасць добрай рэкламы. Газета адметная, са сваім «тварам» і чаму б не пра гэта не казаць на месцах сябрам Таварыства беларускай мовы. Трэба ісці да людзей. А газету трэба ўвесці ў шэраг нацыянальнай элітарнасці, як і саму беларускую мову. Элітарнасць, шляхетнасць, нацыянальная годнасць і будуць з'яўляцца самай лепшай рэкламай не толькі для «Нашага слова», але і ўсяго адраджэнскага руху. Бо сапраўды, хто чытае і цяпер «Наша слова», «Свабоду», «Народную волю» і т.п.? Толькі людзі годныя, якія могуць думаць, разважаць, адстойваць сваю чалавечую нацыянальную адметнасць. А хто чытае «Советскую Белоруссию» і астатнія рупары шляху ў нікуды? Тыя, хто глядзіць у руку ўладароў і гатовы ім падпарадкавацца і жыць па іх падказцы, саветызаваныя «зомбі».

Але калі нават такія людзі адчуюць беларускую элітарнасць, то рана ці позна ў іх абудзіцца нацыянальная самасвядомасць, не самі, то іхнія дзеці адчуюць сваю беларускасць, падвысіцца духам. Я сам для сябе адкрыў дзіўны гожы свет, калі далучыўся да адраджэнскага нацыянальнага руху. Цяпер, маючы двух двухгадовых сыноў, я ведаю, як нам жыць годна, а не існаваць у шэрасці і прыгнёце. Родная зямля, родная культура, родная Беларусь дапамагаюць маёй сям'і ў гэтым.

**Вадзім МАТУСЕВІЧ.**
г.Менск.



Беларускаму філолагу-літаратуразнаўцу, краязнаўцу, загадчыку кафедры беларускай культуры Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, прафесару Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу — 65 гадоў. Рэдакцыя газеты «Наша слова», дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Жана Дапкюнас, прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша, паэт Сяргей Панізьнік далучаюцца да шматлікіх віншаванняў юбіляра ды зычаць яму плёну на ніве роднай культуры, поспехаў у творчай працы і пошуках.

Сто вёснаў і летаў Вам, шаноўны Аляксей Міхайлавіч!

*У газетах*

## Узяліся за сабак. Расійскіх

Яно каб узяліся і за беларускіх сабак, было б дзіўнавата. А тут адразу за расійскіх. Як жа — дыяпазон, размах! Кіраўнікі газеты «Имя», выступаючы на канферэнцыі выдаўцоў і галоўных рэдактараў незалежнай прэсы, скардзіліся ж, што іх дзецішча стала цесна ў межах адной Беларусі: адзін раз напішаш, казалі, што нейкі там беларускі палітык пайшоў туды, праз тыдзень — сюды, а на трэці — што, зноў пісаць «туды»? Сапраўды можна паспачуваць, калі так.

Ну, вось цяпер «Имя» рашуча выйшла, здаецца, на суседскі, расійскі прастор. У № 9, 96 г., напрыклад, дык на першай жа паласе ажно ў шпігелі «чалавекам тыдня» прызначаны былы выконваючы абавязкі генеральнага пракурора Расійскай Федэрацыі. Бо спаўнілася, аказваецца, роўна... месяц (!), як сядзіць, бедны, у турме ў якасці хабарніка і жуліка. З гэтай нагоды яму ж на трэцяй паласе прысвячаецца яшчэ і рэпартаж. На ўсю старонку. А на заканчэнне нумара — шыкоўны калаж: Ельцыну «піяпер» Зюганаў мацае «качкоўскі» біцэпс на правай руцэ і понізу кідкім шрыфтом лозунг: «Тренируйся!» Але Расія «велика», таму ў сярэдзіне нумара яшчэ адзін зноў на палосны ўжо фотарэпартаж — пра забавы «богатых русских» сабакароў. Пачціва, узнёсла і з гумарком.

Канешне, нешта і беларускае падалі чытачу — накшталт таго, што шэф Міністэрства ўнутраных спраў Валянцін Агалец прайшоўся па сваёй прыёмнай на руках, спрыт дэманструючы ды сілу. Затое побач — пра расійскага «эпохального», аказваецца, «собеседника и острослова» Юрыя Роста. А хутчэй нават — пра аўтаадказчык ягонага тэлефона. Далей, відаць, для раўнавагі — інфармацыя ўжо з «нацыянал-міжнародным» каларытам і адпаведным загалоўкам: «Белорус перед английским судом». З тэксту якой высвятляецца, што судзяць у графстве Сюрэй чалавека, які ў часы Другой сусветнай вайны быў начальнікам мясцовай паліцыі ў Беларусі і абвінавачваецца ў забойствах мірных жыхароў. Ён, дарэчы, — грамадзянін Вялікабрытаніі. А вось ці лічыў ён сябе ўвогуле калінебудзь беларусам — невядома. Але ў даверлівага чытача вобраз ужо створаны — стары мярзотнік абавязкова ж беларускі «нацыяналіст».

У гэтай сувязі ўспамінаецца ранейшы матэрыял, які надрукавала «Имя» (№ 3, 1996) — пра аднаго з верталётчыкаў, якія расстралялі ў беларускім небе паветраны спартыўны шар з людзьмі. «Я русский парень, — сказаў карэспандэнту «стралок» Канстанцін Цімафееў, — родился в Москве, рос на Дальнем Востоке. Никогда в жизни не откажусь от России». Тое, што ў яго цяпер «две свои отчизны», абмяркоўваць не будзем. Звернем толькі ўвагу на такую дэталь. На пытанне, якое, па словах журналіста, задавалі афіцэрам, што хацелі служыць у новай украінскай арміі: «У выпадку неабходнасці, ці будзеце вы ваяваць супраць Расіі», стралок чэсна адказаў: «Я не буду». Сітуацыя зразумелая? Але ў рэдакцыі не далі ж загаловак накшталт таго, што «Шар над Беларуссю расстраляў расіец»? Затое, каб, відаць, «распліўшы» чытацкае ўражанне ад беларуска-расійскага (ці расійскабеларускага?) стралка, журналіст дае словы ягонай жонкі, якая «падсыпае» падрабязнасці фонавага характару: «Некоторые местные жители, видевшие падение шара, занялись обыкновенным мародерством. Они собирали одежду и другие вещи погибших! Почему об этом не написали газеты?» Ну, вось «Имя» і напісала. Параўнанне ўчынкаў яшчэ тое: адзін забіў, а іншыя забралі маёмасць забітых. Вывад лёгка напрошваецца. Канешне, браткі-беларусы, калі так, паступілі не лепшым чынам, але ж ці паказалі збіральнікам «трафеяў» хоць тых забітых «амерыканскіх ворагаўшпіёнаў»?

Але вернемся да маскоўскіх бульдогаў і экстэр'ераў. Можна лічыць аднязначным сэнс падзагалоўка фотарэпартажу «У российских собственная гордость», а вось колькі іх у фразе: «достойно смотрелись собаки отечественных (?) пород», ці: «Последняя российская выставка собак доказала, что отечественное (?) собаководство уже...»?

А хто яшчэ з нашага брата-беларуса па завядзёнцы паспрабуе ўпарціцца ды цягнуць з прызнаннем за агульнае «отечество» з вялікім суседам, таго аўтары «Имени» падштурхоўваюць такім чынам: застанецеся па-ранейшаму «позади планеты всей». Бо каб прыстойна ўвайсці нават у міжнароднае супольніцтва сабакароў, і то без Расіі не абысціся, а таму лепей за ўсё «со своей родословной «примкнуть» к какому-нибудь российскому клубу. Ну а он уж (в зависимости от оплаты) попробует «пробить» для вас заветный вариант...» На гэты раз «шчыліны» ў «сабачую» Еўропу. Хоць, здавалася б, у нас і так ужо гэтых пародзістых «а dog» і проста «шарыкаў» у Менску — нагу некуды паставіць, каб не ўпэцкацца.

Прафесіяналы робяць «Имя», што і казаць.

**Ул. АСІНАВЕЦ.**

## Духоўнасць чалавека — галоўнае

*(З адказаў Леаніда Краўчука на пытанні газеты «Всеукраинские Ведомости».*

**«... — Леанід Макаравіч, а чаму Вы ўзначалілі Фонд развіцця мастацтваў, а не, напрыклад, Фонд дапамогі маладым палітыкам? Другое выглядала б больш лагічна.**

— Я ўпэўнены, што духоўнасць чалавеку даецца толькі праз яе авалоданне культурай. Толькі так нараджаецца і нацыянальная ідэя, і нацыянальная сіла духу... Палітыка ж вучыць толькі метадам вырашэння задач. Я бачу, наколькі моцная яшчэ сярод нашых людзей каўбасная тэорыя і прыняў прапанову групы працаўнікоў мастацтваў і палітыкаў стаць прэзідэнтам Фонду, каб дапамагчы развіццю нашай культуры».

*(«Наша Ніва», № 2, 1996.)*

## Замест святаў — сурагат. Чаму?

«Нядаўна па тэлевізары зноў паказвалі карнавал у Рыо-дэ-Жанейра. Якое свята, якое яркае відовішча!.. І не адгукнуцца на іх настрой проста немагчыма нават перад «блакітнай скрынкай» за тысячы кіламетраў. Чаму ж мы не ўмеем так усенародна радавацца? Можа і не ўмелі ніколі?

Ды не. Напэўна, у даволі аддаленыя часы не горш адзначаліся і нашы народна-рэлігійныя святы — Масленіца, Каляды, Купалле, якія цяпер нібыта і адраджаюцца, але ўжо наўрад ці набудуць ранейшую форму, глыбінны змест і маштабнасць. Бо выгрушана з душы народнай бальшавікамі-бязбожнікамі памяць тысячагоддзяў. Што ж іны далі ўзамен?

Нейкія сурагаты, замешаныя на хлусні... Цяперашні дзень Абаронцы Айчыны 23 лютага. Якое дачыненне ён мае да нашай Беларусі? Чаму мы адзначаем выдуманую перамогу чырвоных войскаў пад Псковам у 1918 годзе? Хіба ў багатай гісторыі сваёй краіны няма іншых слаўных датаў? Перамогі пад Грунвальдам у 1410 годзе, пад Оршай у 1514, паўстанні Касцюшкі і Каліноўскага, Слуцкае паўстанне ў 1920...

Не, гэтых падзей святкаваць нам не дазваляюць, бо былі яны без удзелу «старэйшага рускага брата». Або і ўвогуле гэты «брат» быў біты браткамі-беларусамі...»

*(«Салідарнасць», г. Салігорск, № 8, 1996.)*

# Пра мову трэба расказваць цікава

*Прыхільнікі беларускага слова, напэўна, заўважылі радыёперадачу, якая называецца «Невычэрпная скарбніца слова», у якой знойдзена незвычайная форма падачы філалагічнага матэрыялу. Кожная перадача — гэта маленькі спектакль. Адрознівае перадачу і густ, выкарыстанне багатага мастацкага матэрыялу, нязмушаная, вясёлая інтанацыя. А яшчэ — скіраванасць не на вузкае кола філолагаў, а на ўсіх слухачоў, кола якіх сапраўды вялікае і разнастайнае. Са стваральніцай перадачы «Невычэрпная скарбніца слова» Мівай Фёдараўнай Калошка гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» Людміла Рублеўская.*

**— Міва Фёдараўна, як і калі ўзнікла ваша перадача?**

— Выходзіць у эфір яна з чэрвеня 1995 года, штомесяц. Ідэя перадачы належала мне. Галоўнаму рэдактару рэдакцыі літаратурна-мастацкіх праграм Ніне Чайцы я прапанавала перадачу пра культуру мовы. Яна ўхапілася за гэтую ідэю. Адразу паўстала пытанне: у якой форме рабіць выпускі? Калі проста сядзецьме перад мікрафонам нехта з мовазнаўцаў і будзе нешта расказваць, большасць слухачоў гэта не зацікавіць. І мы вырашылі паспрабаваць зрабіць перадачу ў форме спектакля. Прыдумалі персанажаў — Ігара і Анатоля. Яны сябрукі, адзін, беларус, доўгі час жыў у Расіі, пасля вярнуўся на радзіму, пачаў вывучаць беларускую мову, але ўсвядоміў, што не зможа спасцігнуць усе яе тонкасці самастойна, і папрасіў свайго сябра, мовазнаўцу Анатоля, даваць яму ўрокі. Сюжэт перадачы і пабудаваны на дыялогах гэтых персанажаў...

**— І як адрэагавалі слухачы?**

— У першай перадачы я нават не дала нашых каардынатаў і не прапанавала слухачам пісаць — не спадзявалася, што будзе нейкі водгук, тым больш цяпер, на нашых часах. ...Але не паспела перадача прагучаць — і пачуўся тэлефонны званок. Пажылы мужчына выказаўся: «Дзе вы выкапалі такую лухту, такія прыказкі? Я ў Гомельскай вобласці дзяцінства правёў — ніколі такога не чуў». Ну, я тактоўна адказала, што калі ён не чуў у Гомельскай вобласці, дык у другіх абласцях, напэўна ж, можна чуць... Першы водгук — і адмоўны... Але тут пачаліся іншыя званкі, з іншымі словамі... Людзі дзякавалі, казалі, што прыемна было нашу перадачу слухаць. Пасля кожнага выпуску прыходзяць лісты. Алеўасноўным — звоняць. Дарэчы, шмат рускамоўных зваротаў — людзі гавораць, што ім вельмі падабаецца такая форма вывучэння беларускай мовы, калі матэрыял падаецца ненавязліва... Ну, і, зразумела, ад самага пачатку адгукнуліся навукоўцы. Гэтая частка нашай аўдыторыі самая «прыдзірлівая» — сочаць за кожным словам, за кожным вымаўленым гукам... Адразу было шмат заўваг — гэта не так, тое не так... Даводзілася тлумачыць, што наша перадача разлічаная не на вучоных-моваведаў... Цяпер адносіны ў нас з навукоўцамі добразычлівыя.

**— І што пішуць вам слухачы?**

— Падабаецца ім, што ў перадачах гучаць вершы беларускіх паэтаў, урыўкі з літаратурных твораў. Па просьбе слухачкі, дарэчы, пачалі ўключаць у перадачы беларускія песні. Дасылаюць адказы на загадкі, прысылаюць свае пытанні — пра паходжанні слоў, што азначае якое прозвішча, выраз. Ёсць у нас і такі сюжэтны ход — у канцы перадачы Ігар, які вывучае мову, гаворыць нешта няправільна, і слухачам прапануецца вызначыць і раслумачыць яго памылку.

**— А ці можна працытаваць нешта з вашай пошты?**

— Ну, вось, напрыклад, ліст мовазнаўца з Брэста... Першы ліст яна даслала некалькі крытычны, у другім піша: «Дзякаваць Богу, чуткі пра страту перадачы не пацвердзіліся. З удзячнасцю слухала вас сёння. Добрая рэжысура, добрая тэма, добрая мова артыстаў, а ў Тамары Лонскай — бездакорная». Дзякуй нам і прапановы: «ці не лепей «мінулым разам», «гэтым разам», «наступным разам» замест «у мінулы»; парада вымаўляць слова «прабачце» як «прабацьце», каб шыпячы **ч** прыпадабняўся да свісцячага **ц** і супадаў з ім у вымаўленні, як мяккі **ц** падоўжаны...

**— А гэта, пэўна, апошні ліст?**

— Так, на апошнюю перадачу было адзінаццаць званкоў і тры лісты, гэта чацвёрты...

**— Дазвольце, я зачытаю: «Вельмі мне падабаецца новая перадача «Невычэрпная скарбніца слова». Кожны раз слухаю яе і на душы становіцца цёпла», — піша слухачка з Оршы... А хто разам з вамі працуе над перадачамі?**

— Удзельнічаюць артысты Тамара Лонская, якая выконвае ролю вядучай, Віктар Манаеў, які выступае як наш персанаж — мовазнавец Анатоль. А вось на ролю Ігара спрабавалася некалькі акцёраў. Прычым акцёры цудоўныя, вядомыя, але спецыфіка наша такая, што трэба бездакорнае вымаўленне, сапраўднае адчуванне мовы — кожны няправільна вымаўлены гук заўважаюць. Цяпер ролю Ігара выконвае артыст Аляксандр Лабуш, і, напэўна, гэтая роля застанецца за ім. Рэжысёр нашай перадачы — заслужаны артыст РБ Ігар Лапцінскі, дзве перадачы запісаў малады рэжысёр Уладзімір Луцкі. Мовазнавец Марыя Дабрыян дае нам для кожнай перадачы распрацоўкі правіл, а мая справа — напісаць сцэнарый.

**— І як вы паступаеце, калі ад слухачоў атрымліваеце заўвагі філалагічнага плана?**

— Іду на кампраміс. Напрыклад, шмат пісалі нам, каб замест «у мінулы раз» гаварылася толькі «мінулым разам»... Я не лічу, што мусіць быць толькі так, але цяпер часцей ужываем варыянт, прапанаваны слухачамі. Было і яшчэ пытанне — некаторым слухачам не падабаецца слова «напрыканцы»: маўляў «рэжа слых». Мы паабяцалі, што раскажам пра паходжанне гэтага слова. Але гэта аказалася не так проста — ў ніводным слоўніку яго няма. Нарэшце, атрымалі ад мовазнаўцаў кансультацыю: слова «напрыканцы» ўзнікла ў 20-я гады, адтуль з'явілася і ў нашы дні. Але ім карыстаецца абмежаванае кола людзей. Я пракаментавала так: «У такім выпадку лепшы суддзя — час. Ён пакажа, ці знойдзе гэтае слова спрыяльную глебу, каб пусціць карані. Калі знойдзе, то знойдзе і адпаведнае месца ў беларускай лексіцы. А калі не — то само сабой адпадзе». Думаецца, з гэтым пагодзяцца і працаўнікі слова, і прыхільнікі.

**— Значыць, наватворы і словы, якіх няма ў афіцыйных слоўніках, не разглядваюцца ў перадачы?**

— У мове павінна быць усё — нашто яе збядняць... Але перадача наша прысвечана культуры мовы, і мы павінны расказваць пра тое, што ўзаконена, унармавана адпаведнымі правіламі.

**— Але і ў правілах ёсць выключэнні...**

— Так, усё роўна ўзнікаюць пытанні. Напрыклад, у адной з перадач Анатоль наўмысна дапусціў памылку «хранаметраж часу». На жаль, ніхто са слухачоў не заўважыў яе, і мы далі свой адказ: «у словазлучэннях **хронаметраж часу, прэйскурант цэн, памятны сувенір, мая аўтабіяграфія, свой аўтограф, передавы авангард, прамысловая індустрыя, свой аўтапартрэт, ілжывы паклёп, праліўны лівень, галоўная сутнасць, карэнны абарыген, перадавы аванпост, урачысты картэж** змяшчаецца залішняя інфармацыя, таму што **хронаметраж** — гэта і ёсць вымярэнне часу, **прэйскурант** — даведнік цэн, **сувенір** — памятны падарунак, **аўтабіяграфія** — апісанне свайго жыцця і г.д.». Пасля перадачы пазваніў адзін навуковец і гаворыць мне: «Уявіце, што вы прыйшлі ў аддзел кадраў, і там на стале ляжаць аўтабіяграфіі ўсіх супрацоўнікаў. Вы паказваеце начальніку аддзела кадраў на сваю аўтабіяграфію і кажаце: «Вось мая аўтабіяграфія...» Хіба гэта будзе няправільна?» Давялося звярнуць увагу навукоўца, што перад тым, як расказвалася правіла, прагучала: «...беларуская літаратурная мова мае багаты лексічны фонд, і ён у працэсе зносін рэалізуецца абавязкова з улікам **канкрэтнай сітуацыі**, зместу і мэты выказвання, з захаваннем існуючых яе законаў і выпрацаваных норм». У гэтым выпадку ідзе гаворка пра канкрэтную сітуацыю... Навуковец пагадзіўся, што мы растлумачылі ўсё правільна...

**— Калі ж можна паслухаць перадачу «Невычэрпная скарбніца слова»?**

— Раней мы выходзілі кожны трэці аўторак месяца, цяпер будзем выходзіць у 2-ю і 3-ю (паўторна) пятніцы, з 9.30 да 10.00 гадзін.

**— Якія планы ў перадачы на будучае?**

— Ёсць шмат цікавых тэм, аб якіх будзем весці гаворку ў сваіх выпусках... Скажу толькі, што працаваць над перадачай складана. І пісаць у студыі яе няпроста. Але калектыў склаўся сапраўды творчы. Артысты адносяцца да запісу з цікавасцю.

Слухачам палюбілася перадача і яе героі. Так і дасылаюць лісты — Ігару і Анатолю. Вось, напрыклад, адзін чалавек звяртаецца да іх: «Я пісаў у школе «першага верасня», а настаўніца майго сына прымушае пісаць яго «першае верасня». Вы, Анатоль і Ігар, апошняя інстанцыя»...

**— Ну і як, далі Анатоль і Ігар кансультацыю?**

— Так. Знайшлі ў кнізе А.А.Каўруса. Дакумент па-беларуску, што правільна пісаць — «першага верасня», а «першае» — калька з расійскай мовы.

Многія слухачы просяць, каб перадача выходзіла часцей. Нам гэта прыемна слухаць. Над такой прапановай будзем думаць.

**— Дзякую, Міва Фёдараўна, за гутарку. Будзем чакаць далейшых выпускаў перадачы «Невычэрпная скарбніца слова». Жадаем вам творчага плёну і выказваем ад імя ўсіх прыхільнікаў беларускага слова спадзяванне, што такая патрэбная і цікавая перадача не знікне.**

***Уражанні***

## Сіндром «камуніі»

Прыгожы, «мужчыністы» ўсім абліччам пенсіянер-вясковец. Чвэрць веку працаваў у прыгараднай вёсцы начальнікам вытворчага ўчастка. Адтуль чатыры гады таму і на пенсію выйшаў. Пры сустрэчы папрасіў выслухаць яго.

— На старасці гадоў завялі мы з жонкай чатыры каровы. Дзве дойныя, дзве цельныя цялушкі. Клопатаў хапае, але цікавая гэта для сялянскай душы справа. Малако сястры сваёй роднай нашу раніцой, суседзям. А як пацяплее — буду вазіць у Слуцк на рынак, пенсіянеру жывая капейка не лішняя.

Дык вось: летась у агульны вясковы статак сваіх кароў я не выганяў. Паблізу ад майго дому выган, на вяровачках вывяду сваіх «красуль» і «вясёлак» туды, прыпну да калоў, вады ў карыта прынясу, у поўдзень падаю. Любата! То што вы думаеце? Некаторыя вяскоўцы ўзбунтаваліся: як гэта ён рашыў выдзяліцца, не плаціць пастуху? Сабралі агульны сход вёскі, каб заслухаць мяне — як калісьці на партсходзе. Я расказаў усё як ёсць. Дайце, кажу, мне права быць свабодным хоць на пенсіі! І выйшаў. То сёй-той са мною пры сустрэчы цяпер не вітаецца.

Так, сіндром «камуніі», «раскулачвання», выраўноўвання ўсіх у беднасці ў беларускай вёсцы за гады таталітарызму выспеў добра і не хутка вымрэ. Немалая частка сялянства разбэшчана калгаснай «вольніцай» — працаваць, лежачы на баку, — і красці, красці. Гэта і ёсць электарат тых уладных структур і партый, што баяцца рэформаў у вёсцы, трымаюцца за непарушнасць калгасна-саўгаснай сістэмы, нібы жаба купіны.

## Пакрысе «русеюць» раёнкі

Часцяком, па старой журналісцкай звычцы, заходжу ў Слуцкую ўзбуйненую друкарню. Адсюль выходзіць у свет восем раённых і прыватных газет. І што кідаецца ў вочы — усё часцей і часцей пасля сумнавядомага рэферэндуму ў "раёнках" паяўляюцца матэрыялы на расійскай мове, хоць нічога падобнага ў іх не назіралася нават у "застойныя" гады. Ажно спаборнічаючы — хто хутчэй і спрытней! У адной з газет на першай старонцы — набраная буйным шрыфтам аб'ява, дасланая, напэўна, з Менска: «График приёма граждан в областном исполнительном комитете и областном Совете депутатов». З указаннем дзён і гадзін прыёму. На пытанне, чаму гэту аб'яву далі не на роднай мове, ад аднаго журналіста пачуў адказ: «А якая розніца? Не мы адны так даём, нічога страшнага не бачу».

Так мы не заўважым, як здраджваем продкам, як працэс русіфікацыі і выцяснення беларускай мовы захліствае ўсё болей. А і без таго ж 95 са 100 газет у Беларусі выходзяць на расійскай мове. Згубны для роднай мовы, для нацыі працэс. Горка, калі гэтаму садзейнічаюць журналісты, творчыя людзі.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

## «Масьці кладку, заві ў хатку...»

Такое паняцце, як «валачобная песня», я доўга не мог усприняць. Што такое «валачыцца»? У Бабышках, Латышах, Лявонпалі гаварылі на Вялікдзень так: «Трэба ісьці ў хрыстос». А «хрыстосаўскія» песні былі такія: «хрыстос» праваслаўны, каталіцкі і сякоўскі. Мне думаецца, што вялікай розніцы паміж песнямі не было. Хіба толькі ў выкананні прыпеўка. Прыпевак я чуў такі: «Хрыстос васкрос — сын божы», або «Хрыстос — сын божы». Але калі песня выконвалася не на свята, а па просьбе, то прыпевак замяняўся на такія словы: «Няхай так будзе!» «Каб не мець грэху!» — гаварыў мне Андрыян Кісляк.

Ну, а кім былі «сякоўскія» валачобнікі? Сякамі называлі плытагонаў з-пад Смаленска, дзе беларусы «сыкалі»: вымаўлялі, напрыклад, цыгунок замест слова «чыгунок». Яны сплаўлялі свае ганкі-плыты і на Вялікдзень прыставалі да лявонпальскага берага Дзвіны, каб за песні атрымаць «ганарар» — скаромнае. І песні ў іх былі «хуткія», кароткія. І запевак — кароткі: «Хрыстос — сын божы». Бо ў іх сапраўды не было часу: беларускую драўніну чакала ў Рызе Еўропа.

А ўвогуле, як прызнаваўся мне пачынальнік валачобных песняў Андрыян Кісляк, яго энергіі хапала толькі на сем «хрыстосаў» ў суткі. Бо кожнае выкананне — гэта своеасаблівая імправізацыя. Велічалі не толькі Бога, але і яго намесніка на пакутнай зямлі — гаспадара-земляроба, сямейку, працу людскую, «дварок-раёк». Змест песні змяняўся ад таго, хто ў хаце слухаў валачобнікаў. Трэба ж было праславіць і сына-маладца, і дзяўчыну на выданні... Як мне здаецца, тэксты валачобных песняў на Беларусі можна было б аднесці да тэкстаў міні-эпасаў. Жывая імправізацыя, знаходлівасць пачынальнікаў-паэтаў давала плён — натхняла людзей на працу, клікала да духоўнага ўзбагачэння, не давала загінуць векавым традыцыям, а гэта значыць — беларускасці, нашай нацыянальнай адметнасці на зямной планідзе.

Як і песні хрэсьбінныя, валачобныя песні — гэта унікальныя здабыткі народнай духоўнасці, сведчанне высокага культурнага ўзлёту нашай сялянскай душы.

Мне застаецца толькі адзначыць, што валачобная песня, якая прапануецца вам, узнікла з двух запісаў. Адзін з варыянтаў я запісаў ад Кісляка Андрыяна Юркавіча, 1908 года нараджэння, у лістападзе 1968 года. Другі варыянт пачуў у красавіку 1980 года ад Мяніцкага Віктара Феліксавіча, 1920 года нараджэння. Было гэта ў Мёрскім раёне.

Услухоўвайцеся, што сёлета будуць пяяць нашыя суродзічы пасля Вялікадня... Пакінем для нашчадкаў невымернае радовішча — Веру, Натхненне, Талент...

**Сяргей ПАПАР.**

### *Валачобная песня*

Гаспадару, сьлічны пану,
Глянь, на двары што дзеіцца,
Што дзеіцца — ляпеіцца:
У тваім дварку, як у райку!
Раса пала медавая, —
на тым месьці царква стала,
царква стала на тры алтары,
тры алтары залатыі.
На алтары сам Бог сядзіць,
каля яго слўжкі ж яго,
Служкі ж яго — усе сьвятыі —
чахуюцца-рахуюцца:
катораму ж перва стаці,
перва стаці, расчытаці.
Расчыталі, распісалі.
Паставілі перва сьвятца,
перва сьвятца на ўсё лятца:
сьвят-Вялікдзень — сьвята валіка, —
гаспадару п'ець-гуляіць
ўсёй сямейкай маладзенькай,
ён і Бога зьвелічаіць.
Бога просіць: — Дай жа, Божа,
гэта сьвятца праваджаці
да й другога дачакаці.
Гаспадару, сьлічны пану,
калі ласка, масьці кладку,
масьці кладку, заві ў хатку.
Гаспадынька, не ляніся,
каля шафы павярніся.
Скольні ў лесе ялушачак,
столькі табе дачушачак;
сколькі ў тваім дварку калкоў,
столькі ж табе і сынкоў.

 



 Згадкі

*Да 120-годдзя Іларыёна Свянціцкага*

# Пачуў і ўзвысіў...

«Мы для братніх народаў бяздонныя верныя донары...» Такі радок на скрыжалях нацыянальнай памяці пакінуў нам яшчэ адзін Пімен, Пімен Панчанка. Але справядлівы Бог у патрэбны момант вяртае абранаму ім дзеля выпрабаванняў народу літасцівае рэха. Такім рэхам для беларусаў стаўся ў Львове Іларыён Сямёнавіч Свянціцкі. У лісце А.Уласаву (3.1.1909) ён прызнаваўся, што Беларусь — радзіма яго прадзедаў, і падпісаўся тады так: «Иларион Свянцицкий». У лісце М.Клімковічу (12. 7.1946) адрасат з Львова сваё прозвішча пазначыў двума словамі: «Свянціцкі — Свіціцкі».

Яшчэ ў 1908 годзе выйшла ў Львове кніжка «Відродженэ белоруського письменства». На вокладцы імя аўтара пазначана так: Д-р Іляріон Святицький».

Калі львоўскі вучоны быў у Менску госцем Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу, ён атрымаў ад нашых літаратараў кнігі з аўтографамі. Калі беларускі кнігазбор знакамітага даследніка знаходзіўся ў яго доме, удава Анісся Мацвееўна дазваляла мне гартаць прывезеныя з Менска дарункі і я на свае вочы бачыў надпісы. Рукою С.Некрашэвіча было напісана: «Шаноўнаму Іл. С.Сьвяціцкаму на памятку аб наведзінах у Інстытут Беларускай Культуры. 25.10.1926 г.» Кніга «Апавяданьні» падпісана наступным чынам: «Высокашаноўнаму прафесару Іларыёну Сямёнавічу Сьвятыцкаму на добры ўспамін ад З.Бядулі. 25.Х.26г.»

Адбыліся кантакты шаноўнага госця і з Янкам Купалам. Хто ведае, ці гутарылі яны аб тым, што 12 траўня 1846 года каталіцкі ксёндз-вікары Іосіф Свянціцкі хрысціў Купалавага бацьку Дамініка. Але сведчанне аб прыязных адносінах прадстанікоў двух даўніх родаў засталося ў гісторыі: «Шчырапаважанаму праф. Іл. С.Сьвяціцкаму. З прывітаннем Янка Купала. Менск., 19.ІІ. 27 г.» Гэты запіс чытаў я на другім томе збору твораў «Шляхам жыцця». На кнізе «Спадчына» ёсць такі аўтограф: «Шчырапаважанаму праф. Сьвяціцкаму. З прывітаннямі Янка Купала. Менск, 19.ІІ.27 г.»



*Не трэба нават доўга даказваць, што маем поўнае права гаварыць пра беларускае адроджанае пісьменства. Дастаткова толькі прыгадаць сотні грамат і прававых актаў, якія дайшлі да нас, пачынаючы з XIII—XVII стст., звярнуць увагу ці не на паўтары сотні рукапісаў канца XIII—XVII стст., назваць такія старадрукі, як доктара Францішка Скарыны з Полацка (Біблію, Апостал і Псалтыр, 1517—25), Сымона Буднага з Нясвіжа (1562), Грыгорыя Аляксандра Хадкевіча з Заблудава (Учительне евангеліе, 1568; Псалтыр, 1570), выданні друкарні Мамонічаў у Вільні, Евангелле Цяпінскага чыстай народнай моваю, Граматыку 1568 г., Статут літоўскі 1588 г., Катэхізіс Зізанія, Граматыку з 1596 г., творы праваслаўна-каталіцкай палемікі канца XVI — паловы XVII ст., каб праясніць назву тэмы.*

**Іларыён Свянціцкі**, з кн. «Адраджэнне беларускага пісьменства» (1908 г.).

За 30 гадоў з таго часу, як я вучыўся ў Львове і часта наведваў дом Свяціцкіх, а потым і перапісваўся з дочкамі Іларыёна Сямёнавіча — Верай і Марыяй, многа напісана для выяўлення і прыбліжэння да беларусаў гэтай незвычайнай постаці, які, як ніхто іншы ў тагачасным замежжы, пачуў і ўзвысіў над чалавечай супольнасцю першыя клічы Беларускага Адраджэння. І калі суседзі беларусаў у патрэбны час збіралі збройныя сілы для абароны Нацыянальнае Ідэі, мы ў асобе Іларыёна Свянціцкага мелі збіральніка духоўнай моцы народа, што выявіла і паказала людству магутнасць нашага мацерыка.

Асноўныя біяграфічныя звесткі чалавека, які не хаваў свае радаводныя беларускія карані, такія. Нарадзіўся 7 красавіка 1876 года на Львоўшчыне ў сям'і народнага настаўніка. З 3-га класа гімназіі наведваў інтэрнат манашаскага ордэна, дзе вывучаў, акрамя іншых дысцыплін, французскую, нямецкую, англійскую, італьянскую мовы ў беларуса Паўла Смалікоўскага. У 1899 годзе заканчвае філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта, дзе пазней будзе вучыцца і Алаіза Пашкевічанка (Цётка). Пасля сканчэння Археалагічнага інстытута ў Пецярбургу (1900), у Вене ў 1902 годзе абараніў званне доктара славянскай філалогіі. У 1905 годзе паспрыяў арганізацыі нацыянальнага музея, што да 1908 года лічыўся прыватным Царкоўным музеем, якім апекаваўся уніяцкі мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі. Сёння гэта — музей украінскага мастацтва. Створаны І.Свянціцкім у гэтым музеі Беларускі аддзел стаў па дамоўленасці з Беларускай сацыялістычнай Грамадой (а да гэтага спрычыніліся Іван Луцкевіч, Цётка, іншыя віленскія дзеячы) фактычна Першым беларускім нацыянальным музеем за межамі Расійскай імперыі — з 23 слуцкімі паясамі, граматамі, актамі, рукапіснымі кнігамі, сотняй старадрукаў, у тым ліку 12 скарынінскіх, каштоўнымі рэчамі па этнаграфіі, старажытнабеларускім мастацтве, абразамі, царкоўным (уніяцкім) начыннем... Гэты Беларускі аддзел увесь час папаўняўся ў выніку паездак І.Свянціцкага на Беларусь у 1905—1908, 1910, 1926, 1930 гадах.

Сёння мы можам гаварыць пра філолага, мастацтвазнаўцу, этнографа, фалькларыста, музейніка, архіварыуса, лексікографа, піянера беларусістыкі на Украіне, першага скарыназнаўцу Іларыёна Сямёнавіча Свянціцкага. Але з ягонай дапамогай выгадавана вялікая кагорта вучняў-спадкаемцаў, якія па сёння працягваюць справу даследавання прысутнасці беларускай культуры на Украіне.

Намаганнямі І.Свянціцкага Львоў, Украіна спазнала імёны апосталаў Беларускай Ідэі — Купалы, Багдановіча, Цёткі... Скарынаўскія традыцыі славянскай еднасці прадаўжаюцца ў Львове ў творчасці У.Лучука, А.Сенатовіч, І.Дэнысюка, Р.Лубкіўскага, сяброў беларускага культурна-асветнага таварыства імя Ф.Скарыны «Белая Русь» (яны выдаюць газету «Беларус Галічыны»). Справы і дзеі І.Свянціцкага ажываюць на старонках даследаванняў Т.Кабржыцкай, В.Рагойшы, В.Коўтун, у дзейнасці Скарынаўскага цэнтра, Міжнароднага фонду Янкі Купалы...

Спадчына гэтага вучонага служыць глыбейшаму пазнанню беларусамі саміх сябе, подзвігу нашых продкаў у змагарнай справе за дзяржаўнасць Беларусі. Львоў І.Свянціцкага стаў пратуберанцам непагаснага Зніча. Успомнім імя Свянціцкага — для ўдзячнасці і натхнення, што мы ніколі не былі адзінцамі на прасторах славянскай супольнасці і надалей будзем ведаць, дзе шукаць падтрымку і паразуменне, каб і надалей «людзьмі звацца» і ўслед за Купалам прамовіць свайму суродзічу-суайчынніку:

*Сваю магутнасць пакажы ты свету.*
*Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.*

Сам Іларыён Сямёнавіч здзяйсняў гэты запавет дзе мог і як мог і цяпер узвышаецца ў першай кагорце нашых будзіцеляў.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**На здымках:** 1. Іларыён Сямёнавіч Свянціцкі.

2. Рэканструяваная вокладка Скарынаўскай Біблії. З кнігазбору І.С.Свянціцкага.

3. Аўтограф І.С.Свянціцкага.

**Фота з архіва аўтара.**



Бівлиа рѹска выложена доктором франциском скориною из славного града полоцька богу ко чти и людем посполитым к доброму научению.

Итако докончани суть сие Четыри Книги Царьствъ. Иже пишуть о царехъ Ерусалимскихъ и о царехъ Самаринскихъ. Повелениемъ и працею. Того же ученого мужа Франциска Скорины влекарьскихъ наукахъ доктора. У великом Старом Месте Празкомъ. Под лети воплощения слова божия Тисеча пятьсот и осмънадесять: Месяца Августа дня десятого ... ЕМСЛ.



## Сакавіцкі «Czasopis»

«На жаль, мы па-ранейшаму штучна аддзеленыя ад рэшты грамадства. Галоўная прычына — культура і ментальнасць большасці, якая накідвае меншасці акрэслены стыль жыцця, не спрабуючы знішчыць бар'еры, што між імі існуюць. Ёсць у гэтым і нашая віна. Занадта лёгка мы дазваляем замыкаць сябе, разам са сваімі праблемамі і вартасцямі, ва ўласным коле. З другога боку, у грамадскіх справах мы рэдка падаём сябе менавіта як беларусаў», — напісана ў невялікай нататцы Юрыя Хмялеўскага «Спіханыя ў гета», якая адкрывае нумар. Як бачым, у беларусаў, якія з'яўляюцца ў Польшчы меншасцю, праблемы тыя ж, што і ў нас — большасці ў сваёй краіне, што дае падставу да разважанняў. На разважанні наводзяць і змешчаныя ў рубрыцы «Погляды» датычныя нашага краю цытаты з масмедыя Польшчы, Беларусі і Расіі ды выказванні палітычных і грамадскіх дзеячаў гэтых краін — Аляксандра Лукашэнкі, Уладзіміра Жырыноўскага ды іншых.

Імя яшчэ адной вядомай асобы — Кандрата Крапівы — таксама згадваецца ў гэтым нумары з нагоды 100-гадовага юбілею паэта. Праўда, творчасць ягоная аўтарам артыкула «Крапіва» Міколам Гайдуком трактуецца не так, як большасцю айчынных літаратуразнаўцаў. «Першая яго п'еса «Канец дружбы».., відаць, была апраўданнем Крапівы перад НКУСам уласных «цёмных» плямаў у сваёй біяграфіі. «Партызаны» — гэта ўжо агітацыйны абразок з польска-савецкай вайны... «Проба агнём» — тое самае, толькі з часоў вайны з нямецкімі захопнікамі. І такія ўсе іншыя, аж да апошняй «Брамы неўміручасці». А страшэнна многа нашумелая і абвешаная ўсялякімі магчымымі і немагчымымі ўзнагародамі і пахваламі «Хто смяецца апошнім» — гэта, па сутнасці, апраўданне бальшавіцкіх крывавых рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі. Жыццё гэтых «геніяльных» твораў закончылася разам з савецкай эпохай.

З 1947 года Крапіва працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, маланкава ішоў там на павышэнне: стаў дырэктарам гэтага ж інстытута, а ў 1956 г. — ужо віцэ-прэзідэнтам Акадэміі. Трэба памятаць, што гэта пад яго наглядам, між іншым, складаліся найважнейшыя слоўнікі беларускай мовы, у якіх надзвычай старанна «ачышчалі» яе з усяго ўласна беларускага і ўсімі сіламі «набліжалі» да «великого и могучего русского языка», піша Гайдук.

«Справа ў Пагоні» — такую назву мае артыкул, які апісвае падзеі святкавання 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. «...святкаванні юбілею Таварыства не датычылі, умоўна кажучы, тых, хто публічна прызнае гістарычную беларускую сімволіку», — піша ў ім Ю.Каліна, пацвярджаючы факт расколатасці беларускіх арганізацый у сваім краі.

Дзве наступныя публікацыі — «Лукашэнка — лідэр славян» і «З Сіндэсмасам у Святой зямлі». У першай з іх апісваюцца прэтэнзіі цяперашняга Прэзідэнта Беларусі на лідэрства ў інтэграванай вялікай дзяржаве, у другой — пілігрымка праваслаўнай моладзі Беласточчыны ў Святую зямлю.

Традыцыям і рэаліям жыцця Беласточчыны прысвечаныя наступныя артыкулы — «Талеранцкія Семяцічы» і «Цвярдыня».

«Адшукана ў архіве» — у гэтай рубрыцы «Czasopis» змяшчае надзвычай цікавы артыкул з назваю «Яны змагаліся за Беларускую Народную Рэспубліку». Асновай публікацыі сталі запісаныя ў 1958 годзе ўспаміны жыхара Грабоўца гміны Царкоўныя Дубічы Паўла Шыманюка. Яны датычаць пераважна 1921—1922 гадоў — часу, калі на канферэнцыі 1921 г. у Празе прадстаўнікі галоўных беларускіх палітычных сілаў вырашылі збройна абараніць незалежнасць свайго народа і на ўсходзе цяперашняй Беласточчыны пачалі ствараць закансціраваныя беларускія нацыянальныя ваенныя структуры, знішчаныя пазней польскай службай дзяржаўнай бяспекі. Частка сяброў збройнай Беларускай Арганізацыі на судзе, які адбыўся 14.05.1923 г. у Беластоку, атрымала выракі зняволення на тэрмін ад года да пажыццёвага. А ў час нямецкай акупацыі шмат хто з іх быў пакараны смерцю за супрацоўніцтва з партызанамі, піша аўтар тэксту С.Іванюк.

У наступным артыкуле — «Узрастаў я разам з «Нівай» Міхася Шаховіча — аналізуецца стан газеты польскіх беларусаў, яе праблемы і перспектывы.

9 снежня 1995 года першы канал польскай тэлевізіі паказаў інтэрв'ю з Сакратам Яновічам і Лявонам Тарасевічам — вядомымі ў свеце польскімі артыстамі беларускага паходжання. Запіс гэтай тэледыскусіі, ілюстраваны здымкам, змешчаны ў месячніку пад загалоўкам «Пісьменнік і мастак пра Беларусь».

Гэты, сакавіцкі нумар месячніка мае істотнае адрозненне ад іншых. Раздзел «Хроніка мясцовасці», у якім падаецца гісторыя вёскі Спічкі, вядомай з XVI стагоддзя, гэтым разам займае трэцюю старонку вокладкі. А на яго традыцыйным месцы — апошняй старонцы — рэдакцыяй змешчана віншаванне чытачам з днём 25 Сакавіка — святам, афіцыйна не прызнаным у Беларусі.

**У.П.**

## «Маю гонар» —

так называецца аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі, якому нядаўна споўнілася пяць гадоў. Да гэтай даты была наладжана выстава ў сталіцы Латвіі, дзе 13 сяброў аб'яднання вынеслі на суд гледачоў свае работы. Аднак двое з іх не змаглі прыехаць на ўрачыстасці. Янку Кузміцкаму са Швецыі перашкодзіла замерзлае ля берагоў мора і адменены з гэтай прычыны рэйс парома.

27 лютага ў Доме журналістаў у Рызе сабралася багата люду з кветкамі. Адкрываючы выставу — перад тэлекамерамі, — кіраўнік аб'яднання вядомы мастак Вячка Целеш расказаў пра шлях станаўлення і сталення мастацкай суполкі, выказаў спадзяванне, што гэтая выстава зможа перамясціцца ў іншыя гарады, у тым ліку ў Даўгаўпілс і ў Менск. Затым пасол Беларусі ў Латвіі Валянцін Вялічка павіншаваў прысутных з адметнай падзеяй у жыцці беларускай дыяспары. Добрыя словы ў адрас беларусаў-творцаў таксама сказалі старшыня Саюза пісьменнікаў Латвіі Віктар Авотыньш, прадстаўнік Міністэрства культуры Латвіі Гундэга Цэберэ, мастацтвазнаўца Рута Чаупова, старшыня аб'яднання беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі Янка Кабановіч, старшыня рыжскага Таварыства беларускай культуры «Світанак» Мікола Ярчак, старшыня Таварыства беларускай мовы «Прамень» у Рызе Алесь Карповіч і іншыя.

Сярод работ, прадстаўленых на выставе (а тут былі карціны маслам, пастэлі, фларыстыка, графіка, габелены), мяне асабліва ўразілі «Зорка Венера» і «Вечарэе» В.Целеша (Латвія), а таксама яго экслібрысы, «Вой святла» В.Малашчыца (Латвія), «Блакітная вада» М.Чырыча (Латвія), «Гадзіннік» М.Гаўрыловіча (Латвія), нацюрморты М.Астраумавай (Эстонія). Аднак і працы астатніх аўтараў А.Аблажэй (Летува), М.Балаховіча (Латвія), К.Вольскай (Латвія), М.Зашчырынскай (Латвія), Л.Лойкі (Латвія), Т.Насенкі (Латвія) былі, на мой погляд, па-свойму цікавымі, з выразнымі прыкметамі таленавітасці.

На адкрыцці выставы аўтар гэтых радкоў таксама меў слова і прачытаў свой верш:

* * *

*Вітаю шчыра ў дзве рукі*
*Вас, беларусы-мастакі,*
*Што і ў няпросты час такі*
*Тут гонар маеце такі:*
*Да родных гоняў нацянькі,*
*Да дзён мінулых напрамкі,*
*Да нашых сэрцаў напрасткі*
*Пракладваць сцежкі і*
*масткі!*

**С.ВАЛОДЗЬКА.**

 

# ВЕРУЕМ

**Да 2000-годдзя хрысціянства**

*У папярэднім частцы артыкула гаварылася пра асірыйскі ды бабілонскі палоны насельнікаў Юдэі і Ізраіля. У Новабабілонскай дзяржаве палоннікі не толькі плакалі па радзіме, але збіралі духоўную спадчыну, захоўвалі звычаі і абрады. І калі персідскі цар Кір дазволіў юдэйцам вярнуцца, яны пайшлі на радзіму. 8236 наладаваных скарбам жывёлінаў неслі таксама і літургічнае начынне з разбуранага галоўнага юдэйскага храма. У Ерусалім вярнуліся пераважна вызнаўцы культу Яхве — Майсеевай рэлігіі. У новым юдэйскім грамадстве, якое адбудавала галоўны храм і сцены Ерусаліма, пад пагрозай знікнення юдэяў як нацыі былі прынятыя жорсткія шлюбныя законы: юдэі, жанатыя на чужынках, прымушаны былі адправіць сваіх жонак на іх бацькаўшчыну. Вялікі ўплыў займелі жрацы, якія рэгламентавалі ўсё жыццё і побыт юдэйцаў. Майсеева рэлігія паступова траціла сваю этыку і станавілася фармальнай.*

## Другая рэлігійная плынь

Побач з артадоксамі-яхвістамі ў Юдэі з VIII стагоддзя да Х.н. існавала і другая рэлігійная плынь, выказнікамі якой былі прарокі. Імі станавіліся мудрыя людзі, што імкнуліся навучыць суплямённікаў любові да Бога. Сама важным для іх быў этычны змест юдэйскай рэлігіі. Прарок Амос, які ў паўсядзённым жыцці гадаваў гавяду, лічыў важным толькі адно: каб людзі былі справядлівымі і мелі Бога ў сваіх сэрцах. Прарок Ісая, заможны земляроб, прызнаваў Яхве Богам усяго чалавецтва, а юдэйцаў — выбраным народам дзеля выратавання свету. (Менавіта гэтая месіянская ідэя паўплывала на ідэалогію першых хрысціянскіх абшчынаў.) Прарокі сцвярджалі, што Яхве цэніць не вонкавыя прыкметы ягонага культу ды рытуалы, а маральную чысціню, дабрату і справядлівасць. Яны ўсчувалі сугрмадзянаў за падзенне нораваў, адыход ад веры, здрадлівасць, а ўладароў — за злачынствы і разбэшчанасць ды прарочылі ўсяму народу жабрацтва і пакуты, калі юдэйцы не пойдуць Божым шляхам. Прарокі былі абачлівымі палітыкамі. Ісая адгаворваў цара Ахаза звяртацца па дапамогу да асірыйцаў, калі той намерыўся выступіць супраць сірыйска-ізраільскага хаўрусу. Ерамія ганьбаваў палітыкаў-фанатыкаў, якія, спадзеючыся на егіпецкую дапамогу, падзуджвалі юдэйцаў ваяваць з халдзеямі.

## Юдэя. Апошнія стагоддзі

Сцены Ерусаліма былі адбудаваныя ў 433 годзе да Х.н., ды ўвесь край заставаўся правінцыяй персідскай імперыі, цары якой даручылі кіраваць Юдэяй мясцовым жрацам. Але ў 333 годзе македонскі цар Аляксандр разграміў персідскае войска. Юдэя, як і Егіпет, была ўключана ў імперыю Аляксандра Македонскага, а яе жыхарам былі нададзены такія ж правы, як і грэкам. Пасля ягонай смерці Юдэя была далучана да Егіпта. Александрыя, заснаваная вялікім македонцам, стала цэнтрам асветніцтва і гуманізму. У гэтую пару перад юдэйцамі паўстала пагроза больш небяспечная за ўсе ранейшыя. Элінізм — эпоха верацярпімасці, свабоды духу, росквіту навукі, літаратуры і мастацтваў — захапіў юдэйцаў. Шмат хто з іх адрокся ад роднай мовы і размаўляў толькі па-грэцку. Моладзь пабудавала ў цэнтры Ерусаліма арэну, дзе спаборнічала на ўзор грэцкіх атлетаў. Культ здаровага і пругожага цела, грэцкая паэзія, свежыя філасофскія ідэі бралі верх над псалмамі і рытуальнымі забаронамі. (Але ў Ерусаліме заставалася магутная суполка вызнаўцаў Яхве.)

За дзвесце гадоў да Х.н. Юдэяй пачалі панаваць Селяўкіды, нашчадкі аднаго з Аляксандравых ваяводаў — Селеўка Нікатора. Адзін з іх, Анціох IV Епіфан, фанатычны прыхільнік грэцкай культуры, рашуча выкараняў усе іншыя звычаі рэлігіі. Ён абрабаваў Ерусалімскі храм, а супраць абураных юдэйцаў паслаў свайго ваяводу, які разбурыў горад і паланіў шмат ягоных жыхароў. Юдэйцы паўсталі пад кіраўніцтвам жраца Матафіі і геройчна адваявалі Ерусалім. Але пазней Макавеі — так сталі называць сыноў Матафіі — здаліся сыну згаданага ўладара з дынастыі Селяўкідаў, а ён дазволіў аднавіць старую веру і даў аўтаномію. Ды Макавеі аднавілі змаганне і ў 142 годзе да Х.н. дамагліся поўнай палітычнай незалежнасці.

Праз семдзесят гадоў у Палесціну ўварваліся рымляне і пасля трох месяцаў аблогі захапілі Ерусалім. Палесціна стала рымскай правінцыяй.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтаваў З.С.**

*Свет Новага Запавету*

## Эсеі

Аўтары кніг Новага Запавету ніводнага разу не згадваюць пра гэтую супольнасць, якая існавала ў адным з імі часе. Усе звесткі пра яе паходзяць з нехрысціянскіх крыніц — кніг Флавія, які называе іх «эсеніі», Філона Александрыйскага (ён пісаў «эсеі») ды Плінія Старэйшага.

Эсеі, рух якіх узнік каля 150 гадоў да н.э. і ў часы Хрыста налічваў, паводле сведчанняў Флавія, каля 4000 асобаў, не былі, у адрозненне ад садукеяў ці фарысеяў, багатымі ці прывілеяванымі людзьмі. «Яны жылі ўсе разам, — піша пра іх Філон, — аб'яднаныя ў карпарацыі, гетэры, брацтвы, і ўсе былі занятыя працай на грамаду.

Ніхто з іх не мае ўласнай маёмасці, ані дома, ані раба, ані зямлі, ані статка, увогуле нічога, што дае багацце. Але, злучаючы разам усю сваю маёмасць без адасаблення, яны карыстаюцца ёю супольна.

Грошы, якія яны маюць ад працы, аддаюць абранаму старшыні. Гэты прымае іх і купляе ўсё, што патрэбна, і выдае ежу і ўсё, што патрэбна для жыцця».

«Не толькі ежа, але і адзенне было ў іх агульным. Узімку яно складалася з грубага плашча, улетку выдаваліся лёгкія накідкі і кожны мог імі карыстацца, калі хацеў. Што належала аднаму, тое належала ўсім, а тое, што мелі ўсе, меў кожны», — пісаў той жа аўтар.

Значная частка эсэйскіх суполак складалася выключна з мужчын, бо гэтыя людзі адмаўлялі шлюб, жадаючы захаваць чысціню. Менавіта гэтым — жаданнем весці жыццё без граху, заставацца чыстымі духам і целам тлумачацца ўсе звычаі эсеяў, якія сяліліся далёка ад горадоў, займаліся выключна земляробствам, адмаўляліся ад набору ў рымскае войска. Вызнаючы агульную для ўсіх веру, эсеі, у адрозненне ад садукеяў ці фарысеяў, цалкам адмаўлялі свабоду волі і верылі ў Божае наканаванне. Яны жылі ў чаканні прыйсця Збаўцы, рыхтаваліся да яго, жывучы, як аскеты.

Раскіданыя па ўсёй Палесціне, але часцей на заходнім узбярэжжы Мёртвага мора, эсеі ўтварылі нешта накшталт закону верных. У адной з яго суполак — селішчы ў пустыні на беразе Мёртвага мора — жыў Ян Хрысціцель да часу, пакуль не пачаў сваё служэнне. Вядомы ў свеце венгерскі біблеіст і філасоф Густаў Гечэ гаворыць пра вялікую верагоднасць таго, што ва ўзросце ад 11 да 30 гадоў — у час, які абмінае створаны евангелістамі жыццяпіс Хрыста, сябрам адной з грамадаў эсеяў быў і Езус з Назарэта. Даследчык падае нават назву гэтага селішча — Кумран.

Рух эсеяў праіснаваў нядоўга — трохі болей за 200 гадоў. Улады трывалі яго да часу, пакуль не адчулі з боку эсеяў пагрозы, бо тыя, нягледзячы на адасобленасць ад вукіа, былі чыннікам небяспекі ўладзе Рыма. Нягледзячы на адмаўленне служыць у войску, эсеі не былі міралюбцамі: калі іхняя радзіма канчаткова страціла свабоду, у час паўстання 67—70 гадоў за зброю ўзяліся і яны.

Удзел у паўстанні паклаў крэс руху эсеяў. Большасць з іх загінула ў вайне, па сканчэнні якой гэтая супольнасць ужо не адрадзілася, бо не мела магчымасці дзейнічаць адпаведна сваім прынцыпам — свабодна і адкрыта.

**У.П.**

# Ён уваскрос

Хрысціянству як гістарычнай падзеі — сёння, як і раней, важнай і актуальнай — паклала пачатак вестка, якая разнеслася па Ерусаліму пасхальнай раніцай 30 года і з таго часу бесперапынна гучыць у сусветнай гісторыі. Гэтая вестка акрэслена грэцкім словам і ў ім асноўны змест нашай веры: egérthe, што азначае: «Ён паўстаў»; «уваскрос».

Гэтыя простыя словы сказаны пра Езуса Назараніна. Апосталы, пасланыя Езусам, паўтараюць усяму свету, што чалавек, які памёр на крыжы па-за мурамі Ерусаліма, на трэці дзень уваскрос і сёння жывы.

Першы ўспамін пра Езуса мы знаходзім у св. Паўла, і ён выражае хрысціянскую веру ў тое, «што Езус памёр і ўваскрос» (І Фес. 4, 14). У сваім самым раннім лісце, напісаным каля 50 г., ён прыводзіць гэта перакананне, як добра вядомае. Варта звярнуць увагу і на тэкст І Кар. 15, 3—5, дзе заключана формула веры, якую Павел прыводзіць як атрыманую ад старшых Апосталаў (І Кар. 15, 3—11). Укрыжаванне Езуса літаральна шакіравала вучняў.

Аднак адразу пасля смерці Езуса вучні незразумелым для іх чынам пераконваюцца ў тым, што Ён жывы і ўскладае на іх абавязак працягваць Яго справу (І Кар. 15, 5—8). Разам з тым, абвяшчаемае Апосталамі, асабліва Паўлам, Уваскрашэнне Езуса, з аднаго боку, азначае не столькі звычайнае вяртанне да жыцця і вяртанне мёртвага на гэты свет, колькі канчатковае пазбаўленне ад улады «валадарства смерці», паколькі смерць Езуса, згодна агульнай біблейскай думкі, з'яўляецца нечым большым, чым біялагічным канцом Яго зямнога жыцця. З другога боку, Уваскрашэнне Езуса азначае пачатак існавання ў Боскай сферы жыцця, якая не падпарадкоўваецца ўжо законам гэтага свету. Каб мець магчымасць далей гаварыць аб гэтым, варта скарыстаць тэрміны, што зыходзяць з нашага (па гэты бок смерці) досведу: «паўстаць» (з памёршых), «абудзіць» (спачага). Пры гэтым трэба памятаць, што гэтыя словы мы можам выкарыстоўваць толькі ў вобразным, пераносным сэнсе. Біблейскія тэксты не даюць апісання самога Уваскрашэння Езуса і тым самым адрозніваюцца ад старажытных міфаў. Таму ў Касцёле па сённяшні дзень гаворыцца аб Уваскрашэнні Езуса, як аб містэрыі (таямніцы веры). Цяпер робіцца зразумелым, чаму мы не можам даказаць Уваскрашэння як факту, які адбыўся ўнутры свету, у якім мы жывём, а толькі сведчым аб ім, як аб сапраўды адбыўшымся і вартым веры. З самага пачатку Касцёл адводзіў аргументы, якія адмаўляюць Уваскрашэнне Езуса. Прыкладам таму служаць частыя спасылкі на святыя Пісанні Ізраіля, якія падкрэсліваюць праўду, што Бог мае ўладу над смерцю. Так, Уваскрашэнне Езуса, як і сустрэчы Апосталаў з Уваскрослым, якія Біблія пераважна вызначае як «з'явы», пераважаюць увесь наш зямны досвед. Евангелісты апісваюць гэту падзею ў выглядзе гісторыі, каб прыстасавацца да інтэлектуальнага далягляду сваіх чытачоў і прывесці іх да веры. У гэтым сэнсе павучальнае параўнанне кароткага паведамлення Апостала Паўла пра яго навяртанне пад Дамаскам (Гал. 1, 16, І Кар. 15, 8) з трыма мастацкімі апісаннямі ў дзеяннях Апосталаў, якія выйшлі з-пад пяра Лукі (Лк. 9, 22—26).

Падсумаваўшы вышэйсказанае, сцвердзім, што Езус, укрыжаваны і ўваскрослы, жыве сёння, бо Ён перамог смерць, Ён памёр дзеля нашага збаўлення і, уваскросшы, даў нам вечнае жыццё, менавіта ў гэтым асноўны змест нашай веры.

**Падрыхтаваў А.Н.**

# «Наша вера» — новы культурна-рэлігійны часопіс

Выйшаў у свет першы нумар каталіцкага штоквартальніка — часопіса «Наша вера».

Якую ж мэту ставіць перад сабой новае выданне? Найпершая і самая галоўная мэта — дапамагчы тым, хто прагне духоўнасці, хто хоча больш і глыбей ведаць пра хрысціянства ўвогуле і каталіцызм, у прыватнасці. Часопіс адрасаваны шырокім колам інтэлігенцыі і студэнцкай моладзі, усім, каго хвалююць праблемы духоўнасці, каго цікавіць гісторыя хрысціянства, каталіцызму на Беларусі і ў свеце, хто хоча быць у курсе сучаснага рэлігійнага і культурнага жыцця, навінак беларускай і замежнай рэлігійнай літаратуры.

На другой старонцы вокладкі змешчана дабраслаўленне для новага выдання кардынала Казіміра Свёнтка. «Маю надзею, — гаворыць кардынал, — што сваімі публікацыямі часопіс дапаможа духоўнаму выхаванню нашага грамадства і стане карысным і неабходным шырокаму колу беларускіх чытачоў».

Падборку матэрыялаў нумара ў рубрыцы «На кніжнай паліцы» распачынае ўрывак з кнігі «Пераступіць парог надзеі». Кніга Святога Айца Яна Паўла II выйшла восенню 1994 г. у Італіі. Яна абышла ўвесь свет, сабрала мільённыя наклады і стала сапраўдным бестсэлерам каталіцкай літаратуры.

Гэта унікальная кніга, якая складаецца са шчырых, глыбокіх адказаў главы Каталіцкага Касцёла на нечаканыя пытанні вядомага італьянскага журналіста і пісьменніка Віторыё Мэсоры і якую тэолагі ацэньваюць, як «непасрэднае, вольнае ад схемаў і фільтраў, адлюстраванне рэлігійнага і інтэлектуальнага свету Яна Паўла II», як «ключ да разумення і інтэрпрэтацыі ўсяго яго вучэння», рыхтуецца да выхаду на беларускай мове.

«Дваццаць пяць гадоў турмы, лагераў і ссылкі» — такую назву мае матэрыял, падрыхтаваны Ірынай Жарнасек аб малавядомай да гэтага часу постаці беларускага ксяндза Язэпа Барадзюлі, які прайшоў усе колы бальшавіцкага ГУЛАГа.

У той жа рубрыцы «Постаці» змешчаны артыкул «Трэба іх пазнаць» — успаміны пра кс. Станіслава Глякоўскага, выбітнага навукоўца, душпастыра і шчырага патрыёта Беларусі, закатаванага нацыстамі.

Працягвае тэму пакутніцкага лёсу каталіцкіх святароў матэрыял Таццяны Процькі «Касцёл у часе II сусветнай вайны». Яна распавядае аб лёсах святароў, якія пад час вайны працавалі сярод беларусаў і прынялі за гэты народ пакутніцкую смерць.

Вядомы беларускі навуковец з Варшавы Юрый Туронак прапануе ўвазе чытачоў гістарычны матэрыял на тэму фарміравання і развіцця каталіцкіх парафій на Беларусі 1387—1781 гг.

«Шэсць праўдаў веры» — так завецца праца тэолага, рэктара Папскай Кракаўскай тэалагічнай акадэміі Эдварда Станека. Змяшчаючы яе на старонках выдання, перакладчыца І.Жарнасек спадзяецца, што гэты матэрыял дапаможа тым, хто шукае адказы на пытанні веры і жыцця.

Упершыню артыкул кандыдата філалагічных навук А.Жлуткі «Пан, Госпад, Спадар?» быў апублікаваны ў часопісе «Хрысціянская Думка», які ўжо сёння з прычыны маленькага накладу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Таму рэдакцыя вырашыла перадрукаваць гэты матэрыял, які будзе карысны для тых, хто цікавіцца гісторыяй паходжання некаторых рэлігійных тэрмінаў.

У рубрыцы «Па старонках старых выданняў» перадрукоўваецца артыкул Юркі Віцьбіча «Ня змоўклі віцебскія арганы», у якім аўтар распавядае пра хрысціянскія святыні Віцебска, упершыню быў апублікаваны ў часопісе «Божым шляхам» (№ 1, 1968 г.).

Увазе аматараў паэзіі прапануецца ўрывак з «Боскай камедыі» Дантэ Аліг'еры, у перакладзе на беларускую мову Уладзіміра Скарынкіна, а таксама вершы рэлігійнай тэматыкі Крысціны Лялько і Мар'яна Дуксы, а таксама іншыя цікавыя матэрыялы.

Падагульняючы вышэйсказанае, трэба адзначыць, што «першы блін» не выйшаў «камяком», будзем спадзявацца, «Наша вера» знойдзе належнае месца ў шэрагу рэлігійных выданняў нашай краіны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

**Беларускае Адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Гіпотэза пра заходнебеларускі радавод Івана Фёдарава

Я.Л.Неміроўскі знайшоў факты, якія аспрэчвалі гіпотэзу пра ўсходнебеларускае (з Мсціслаўшчыны) паходжанне Івана Фёдарава.

Паводле сцвярджэння Лявіцкай-Каміньскай, населенага пункта Петкавічы не было ні ў Кракаўскай епіскапіі, ні на суседняй Холмшчыне. Я.Л.Неміроўскім былі выяўлены тры беларускія вёскі з такой назвай: першая недалёка ад Радашковічаў, другая — на рацэ Вусе, паблізу Койданава, і, нарэшце, трэцяя — поруч з вядомай Ішкалдзю (у Баранавіцкім раёне). З гэтых мясцін, як сцвярджаюць спецыялісты ў галіне геральдыкі, паходзіў і шляхецкі род Рагозаў, якія карысталіся гербам «Шрэнява». Да таго ж, з паўднёва-заходніх беларускіх зямель, у прыватнасці Заблудава, паходзіў вучань Івана Фёдарава Грынь Іванавіч.

Гэтае сцвярджэнне Я.Л.Неміроўскага пацвярджае прапанаваная А.Я.Мацюком гіпотэза: Іван Фёдараў ехаў у Вялікае Княства Літоўскае не праз беларуска-расійскую мяжу, а праз вольную ад вайны Лівонію [У 1561 годзе Лівонія, знемагаючы ў вайне з Іванам IV, далучаецца да ВКЛ і Рэчы Паспалітай], якая ў тэксце калафона (г.зн. кароткага пасляслоўя ў рукапісных ці старадрукаваных кнігах, якое нерарастае часам у аповесць пра падзеі, час, выдаўцоў) імянуецца «незнаемыми странами»[1]. Г.Я.Галенчанка падтрымаў дадзенае сцвярджэнне, нагадаўшы пра факт сустрэчы Івана Фёдарава з «панамі-радай» і каралём Жыгімонтам Аўгустам на Віленскім сейме з 18 лістапада 1565 г. па 11 сакавіка 1566 г. Плённыя архіўныя росшукі Я.Л.Неміроўскага дазволілі знайсці ў кнізе каралеўскіх рахункаў запіс за верасень 1566 года пра выплату грашовага ўтрымання Івану Фёдараву і яго сыну ў Любліне. А ў Заблудаве Іван Фёдараў разам са сваім сваяком Астапам Грыгаровічам згадваецца ўжо 6 чэрвеня 1567 г.[2]

Вышэйзгаданае, а таксама заблудаўскі перыяд дзейнасці Івана Фёдарава, асаблівасці мовы яго твораў дазваляюць прыняць пад увагу гіпотэзу пра заходнебеларускі радавод асветніка.

І яшчэ адзін знамянальны факт падае У.К.Лукомскі. У гербе на кнізе астрожскай «Азбукі» 1578 года І.Фёдарава побач з выявай Георгія Перамоганосца, які забівае дракона, у верхнім правым полі змешчаны коннік з узнятай шабляй. Гэта, як пішуць вучоныя, герб «Пагоня», які ў свой час быў дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага[3]. Яго ўводзілі ў геральдычныя кампазіцыі магнаты, каб падкрэсліць сваё паходжанне ад вялікакняжаскага роду. Пра вышэйпамянёнае сведчыць наяўнасць у выдавецкім знаку Івана Фёдарава знакамітага герба «Леліва» (выява паўмесяца з шасцікутнай зоркай, над якой страла з паўкруглаю асноваю), а таксама герб «Конча» (з паўкружжа выходзіць страла і перакрэсліваецца крыжападобна).

Ускосна беларускія сімпатыі Івана Фёдарава пацвярджаюцца выданнем ім, апрача духоўных кніг, твораў спецыфічна беларускіх аўтараў, у іх ліку знакаміты камяндар-паэма Андрэя Рымшы «Хранологія» («Которагo ся месяца шло за старых веков деело короткое описание») 1580 года. Дадамо, што нарадзіўся А.Рымша ў Пянчыне, які ўсяго некалькі кіламетраў ад вёскі Петкавічы.

[1] Мацюк О.Я. К вопросу о переезде Ивана Фёдорова на Украину в 1566 г.//Федоровские чтения. 1983. М., 1987. С. 165.
[2] Мыцко И.З. К вопросу о пребывании Ивана Фёдорова в Белоруссии//Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984. С. 73—77.
[3] Лауцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII веках. Вильнюс, 1979. С.139.

# Вяртанне

***(Успамінаючы Ларысу Геніюш)***

Вяртанне да мовы — гэта як і вяртанне дамоў з чужыны. Яно зусім няпростае і даволі балючае.

Да 16 гадоў я гаварыла толькі па-беларуску, экзамен у інстытут таксама здавала па-беларуску. Але здарылася так, што за чатыры гады, вывучаючы замежныя мовы, на сваёй роднай перастала гаварыць. Нават калі на вёску прыязджала на вакацыі, гаварыла ўжо на чыста расійскай, на што сваякі заўважалі: «Чаго гэта язык стала ламаць? Па-свойму забылася, ці што?» (А цяпер дзэці гэтых сваякоў прагаласавалі за дзве мовы па дурасці ці за каня, каб пасадзіць бульбу?)

А калі была ўжо на апошнім курсе, пайшла таемна ў царкву ў Зэльве, каб прычасціцца перад апошнім экзаменам. На мяне, даволі модную і без хусткі (тады амаль ніхто не хадзіў у царкву без хусткі), звярнула ўвагу цікавая жанчына і спыталася па дарозе з царквы, адкуль я і чым займаюся. І калі я сказала, што вучуся на выкладчыцу замежных моў, яна заўважыла: «Во якая! Якты туды трапіла? Але глядзі, дзяўчо, не забывайся пра сваю мову, бо яна ад Бога!»

Я не ведала гэтай жанчыны з мяккім ласкавым голасам, уважлівымі вачыма і ў шаляноўцы на плячах (так называюць хустку ў вялікія ружы і з кутасамі). Пасля сваякі сказалі, што гэта Генюшыха, жонка найлепшага лекара ў Зэльве.

Ды я забылася пра мову і даволі надоўга. Але, мабыць, словы, сказаныя мне ля царквы, недзе таіліся ў глыбіні маёй душы, бо незадоўга да смерці Ларысы Антонаўны я пачала пісаць дысертацыю, у якой для параўнання з англійскай мовай (хоць тады было і не модна) узяла і беларускую. Дысертацыю абараняла ў тую вясну, калі Ларысы не стала. Але гэта было толькі навуковае вяртанне, не вяртанне душы.

Апошняе вяртанне прыйшло, калі працавала на Беласточчыне (у беларускім ліцэі). Старалася гаварыць толькі па-беларуску, бо брыдка было адказваць па-польску або па-расійску, калі да цябе звяртаюцца па-беларуску. Я ж прадстаўнік беларускай культуры! Дзякуй вам, беларусы Беласточчыны, што вы захавалі свае традыцыі, культуру ды яшчэ і нас шкадуеце.

Чаму трэба пажыць на чужой зямлі сярод беларусаў, каб адчуць сябе беларусам?! Дзіўна, ці не так? Беларусы — адзін з тых народаў, у якіх настальгія вельмі моцна развіта. У Англіі і ў Амерыцы дом беларусаў пазнаеш па бярозцы ці па штыкетніку. Дык што, усіх беларусаў трэба закінуць за мяжу, каб іншымі вярнуліся дадому?

Вярнулася да сваёй мовы, каб, выкладаючы чужую, гаварыць студэнтам, што яна такая ж багатая, як і англійская, каб вучыць іх параўноўваць, перакладаць і да т.п. І ўжо ніякія пастановы і рэферэндумы не прымусяць мяне пакінуць мой утульны і мілагучны «дом» — маю мову.

І калі кожны, хто сам перажыў момант вяртання дахаты, запаліць агеньчык у здзервянелым сэрцы свайго суайчынніка, то зробіць больш, чым навуковыя артыкулы, мітынгі ці крытыка «трасянкі». «Трасянка» ідзе ад блізкасці моў, бо добра вядома, што памылкі часцей бываюць там, дзе ёсць не вялікія, а нязначныя адрозненні. Трэба павышаць агульны ўзровень культуры.

А як запаліць гэты агеньчык? Вучыцца можна ў Ларысы Антонаўны. Дабрыня, шляхетнасць, прастата, уменне прабачаць нават за крыўду, настойлівасць і пачуццё меры — усё гэта прынясе на цяперашнім вітку нашага хістання паміж «быць — не быць» больш карысці, чым папрокі, рэзкая крытыка, павышаная патрабавальнасць да таго, хто пачаў хіліцца да мовы. Тактыка ў наш час павінна быць больш дасканалай, бо стратэгія ёсць, а вось тактыкі не заўжды хапае.

Калі еду на Дзяды на Зэльвеншчыну, нясу кветкі (увесну — пралескі, восенню — вяргіні) на магілу жанчыны, якую бачыла толькі адзін раз, але якая пакінула іскрынку і ў маім сэрцы. І думкі складваюцца так...

*На ўзгорку высокім у цэнтры зямлі навагрудскай*
*Стамлёнае сэрца знайшло свой апошні прыстанак.*
*Ці чуеш, Ларыса, ты словы падзякі, ці бачыш,*
*Што у роднае мовы сягодня то вечар, то ранак?*
*Спускаюся долу і пільна ўглядаюся ў вокны.*
*Мо дух захаваўся, мо кветкі-вяргіні бушуюць?*
*Музею б тут быць, дзе людзі зямлі тваёй роднай*
*Пабачаць цябе, і тугу твайго сэрца адчуюць.*
*Імкнецца крутая шаша да жытнёвага поля,*
*Дзе вырасла ты і зямлі сваёй пах удыхнула.*
*Хай помнікам будуць паэтцы бярозы й таполі,*
*Валошкі смяюцца і птахі на дрэвах сумуюць.*
*Каб межы адкрылі, ужо там зусім недалёка*
*Да краю, тулўшага сына твайго.*
*Да ветлівай, добрай зямлі беластоцкай,*
*Ці чуеш часцей, чым у жыцці, ці бачыш праз межы яго?*
*А там і да Прагі зусім ужо блізка,*
*Што хлебам карміла цябе ў цяжкія тыя гады.*
*Прайсціся б па вулачках ціхіх, званы там паслухаць*
*Ды "Дзякуй" сказаць, і вярнуцца дахаты тады.*
*Маршруты на Кіпр, Істамбул, на Гаваі.*
*А я прапаную маршрутам такім захапляцца:*
*Ад ціханькай Зэльвы — да велічнай Прагі,*
*Каб дух паэтэсы адчуць і крышачку волі набрацца.*

**Алена ТАБОЛІЧ.**

# *Дзе нарадзіўся Страцім-Лебедзь...*

*У календары на 1996 год ёсць лаканічны надпіс: «Сёлета спаўняецца 80 гадоў з часу ўтварэння ў Менску клуба беларускай інтэлігенцыі «Беларуская хатка». Назва гэтая для аматара і знаўца беларускай гісторыі і літаратуры асацыюецца шмат з якімі славутымі імёнамі і падзеямі. Існуе «Беларуская хатка» ў Менску і цяпер. Гэта філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, што знаходзіцца ў Рабкораўскім завулку, 19, змешчаная ў драўляным дамку Савы Рэдзькі. У ім калісь жылі Змітрок Бядуля і Максім Багдановіч. Дамок перавезены з вуліцы Талстога. Сёння тут, як і калісьці, адзін з цэнтраў культурна-грамадскага жыцця беларускай творчай інтэлігенцыі. На 80-гадовы юбілей «Беларускай хаткі» «накладаецца» яшчэ адзін юбілей — 5 гадоў з дня адкрыцця музея ў Рабкораўскім завулку.... За пяць гадоў тут пабывалі дзесяткі тысяч наведвальнікаў, праведзена мноства цікавых імпрэз. І «ўзначальвае» «Беларускую хатку» цікавы чалавек — паэт, вядомы бард...*

*З загадчыкам філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Беларускай хаткі» Эдрусем Акуліным гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» Людміла Шніп.*



**— Едрусь, што такое «Беларуская хатка» як з'ява?**

— Увогуле «Беларуская хатка» — гэта назва клуба беларускай інтэлігенцыі, які існаваў у Менску на пачатку стагоддзя, у 1916—17 гадах. Менавіта гэты клуб згуртаваў вакол сябе беларускую інтэлігенцыю, пісьменнікаў, тэатралаў, культурных і грамадскіх дзеячаў. Актыўнымі ўдзельнікамі гэтага клуба былі такія людзі, як Аркадзь Смоліч, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш., Уладзіслаў Галубок, шмат хто іншы.

**— І існаванне клуба было звязана менавіта з гэтым будынкам?**

— Не, «Беларускіх хатак» было некалькі. Гэты назоў быў папулярны. Напрыклад, знаходзілася такая хатка ў раёне Камароўкі, тую ж хату Альберта Паўловіча на былой вуліцы Навараманаўскай таксама называлі «Беларускай хаткай». І там гуртаваліся беларускія адраджэнцы. Ну а ў праграму дзейнасці «хатак» уваходзілі розныя сустрэчы, вечарыны, гасцёўні. Збіраліся пісьменнікі, чыталі свае новыя творы, развучвалі беларускія песні, разам спявалі і нават таньчылі. Як звычай, у афішах такіх вечарын пасля «афіцыйнай часткі» значылася: «танцы на зале да чацвёртай гадзіны раніцы».

**— Табе не здаецца, што такая форма арганізацыі творчай інтэлігенцыі адпавядае менавіта беларускай ментальнасці. Адметная сама назва — не клуб, не сход, а «хатка», нешта роднае, свойскае. Але, на жаль, гэта панацце ўключае ў сябе і панацце «вузкага кола».**

— Напэўна, сапраўды так. Па-першае, і Беларусь наша невялічкая, яктой кляновы лісток на кроне Еўропы. І дзяржава ў нас маладая... І наша хатка, хаця існуе ўжо 90 гадоў, таксама невялікая і гуртуе вакол сябе нешматлікае кола прыхільнікаў беларушчыны... І змяшчае зала, у якой мы ладзілі імпрэзы ў працяг традыцый тае, даўнейшай, хаткі, каля 50-ці чалавек.

**— Не параўнаць, скажам, з агульнанацыянальнымі імпрэзамі ў краінах Прыбалтыкі, скажам, тымі ж святамі нацыянальнай песні... Ці можа ў нас развіцца нешта падобнае на аснове тых невялікіх культурных утварэнняў, што існуюць зараз?**

— Ну, да гэтага нам трэба яшчэ дарасці. Тым больш прыбалтыйскія святы песні — з'ява унікальная, і сведчыць пра надзвычай высокі ўзровень нацыянальнай свядомасці. Я ведаю, што літоўская энцыклапедыя літаратуры і мастацтва выходзіла накладам, амаль роўным колькасці жыхароў тае краіны. Наша ж энцыклапедыя выйшла накладам 9 тысяч. Красамоўны прыклад. Але і ў нас пачалі з'яўляцца прыклады, калі народ гуртуецца вакол святаў песні, паэзіі. Святам, якое нагадвала па маштабах літоўскае песеннае поле, было свята песні ў Маладзечне, калі на стадыёне сабралася каля 30 тысяч чалавек. Гэта ўражвала.

**— А які сённяшні дзень «Беларускай хаткі»? Вы адчуваеце сябе клубам творчай інтэлігенцыі? Але, можа, варта было б і падумаць над гэтым прыдомкам — ці толькі «інтэлігенцыі»?**

— Так, мы хутчэй маглі б называцца клубам свядомых беларусаў. Да нас у хатку завітваюць і студэнты, і рабочыя, і настаўнікі, і вучні...

**— Ваша зала нагадвае інтэр'ер храма... Так што, было задумана?**

*(Заканчэнне на с.8.)*

# Дзе нарадзіўся Страцім-Лебедзь...

(Заканчэнне. Пачатак на с.7.)

— Зала афармлена ў стылі тае эпохі, калі жыў Максім Багдановіч. Гэта мадэрнавы стыль, дзе спалучаюцца дэкаратыўныя драўляныя дэталі з металічным «дойлідствам». А задумана яна як арганічнае спалучэнне музея і тэатра. Дамінантай залы, «алтаром», з'яўляецца батлеечная скрыпка. Мы зачыняем вітрыны з экспанатамі драўлянымі складнямі, і ўвачавідкі зала ператвараецца з музея ў тэатр. Тым больш што часам тут з'яўляецца сапраўдная сцэна для нашых гасцей. Варта згадаць, што тут выступаў мужчынскі хор «Унія», спяваў ансамбль «Ліцвіны», некалькі разоў была — і ёй вельмі спадабалася хадзіць да нас у госці — Стэфанія Станюта. Часта прыходзяць пісьменнікі, праводзяць прэзентацыі сваіх кніжак. Магу згадаць Галіну Булыку, Мар'яна Віжа, Міхася Ткачова... Беларускія барды спявалі тут свае песні...

**— Унікальнасць музея ўжо ў тым, што яго ўзначальвае паэт-бард... Хто яшчэ працуе тут?**

— Калектыў музея — «сям'я «Беларускай хаткі» — зараз вельмі невялікі, і сапраўды можна назваць яго сям'ёй, таму што тут, акрамя мяне, як загадчыка, працуе навуковым супрацоўнікам мая жонка. Ёсць і яшчэ чалавек, які назірае за экспанатамі. А галоўным для таго, каб працаваць у «Беларускай хатцы», з'яўляецца валоданне артыстычнымі здольнасцямі, тэатральным майстэрствам, уменнем паказваць батлейку. Таму ў нас працуюць звычайныя філолагі, але з задаткамі артыстаў.

**— А якія ў хатцы самыя каштоўныя экспанаты?**

— У нас ёсць экспанаты, якія могуць называцца сапраўднымі рэліквіямі. Гэта асабістыя рэчы Максіма Багдановіча. У нас ёсць пакой Максіма, які мы аднавілі ў тым выглядзе, у якім ён быў пры яго жыцці.. Мы можам падысці і агледзець яго...

Як бачыш, ты прыйшла да нас на пачатку дня, а за вокнамі Максімавага пакоя нібыта зімовая ноч... Гэты вечаровы настрой мы стварылі таму, што, па ўспамінах Змітрака Бядулі, Максім дадому вяртаўся позна вечарам, увесь дзень быў у яго заняты на працы ў губернскай земскай управе, потым паэт мог зайсці ў тую ж «Беларускую хатку» — ён любіў там і вячэраць, і заставацца падоўгу з сябрамі, і толькі пад ноч вяртаўся дадому. Але не клаўся адразу спаць, а сядаў за стол і браўся за пяро. Менавіта ў гэтым пакоі ён напісаў два свае найбольш вядомыя творы — неўміручую «Пагоню» і паэму «Страцім-Лебедзь». Ну а з асабістых рэчаў, якія Максім трымаў у руках, і якіх, дарэчы, вельмі мала засталося ад паэта, таму што архіў ягоны загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны, можна назваць падшклянак, які мы бачым насупраць газніцы на стале. Менавіта з гэтага падшклянка Максім любіў піць гарбату. Недзе ў 1915 годзе, яшчэ да таго, як прыехаў у гэты пакой, Максім па-прароцку напісаў радкі:

*Ноч. Газніца гарыць, чырванее,*
*І гарбата, астыўшы, стаіць...*

Праўда, вельмі нагадвае тое, што мы зараз бачым у гэтым пакойчыку? За вокнамі — ноч, на стале гарыць газніца, гарбата астыла ў чаканні гаспадара... Ствараецца ўражанне, што Максім толькі нядаўна тут быў, сядзеў за гэтым сталом, пісаў. Мабыць, не спадабалася напісанае, скамячыў чарнавік — вось валяецца шматок паперы на падлозе, выйшаў на ганак свайго пакоя, стаіць за гэтымі дзвярыма, углядаецца ў начное неба, каб яшчэ раз пабачыць, палюбавацца на сваю дзівосную зорку Венеру, пра якую напісаў такія цудоўныя радкі... А ў куце, на тумбачцы — лекі, сведчанне хваробы Максіма. Тут таксама асабістая рэч — белая фарфоравая ступка. Менавіта ў ёй паэт драбніў таблеткі, састаўляючы парашкі, каб змагацца са спадчыннай хваробай, сухотамі.

Часта, калі Змітрок Бядуля, які жыў у суседнім пакоі, заходзіў сюды раніцай і браў тэрмометр, што цяпер ляжыць на ўскрайку стала, гэты тэрмометр паказваў тэмпературу пад 38—39°. Па сутнасці, паэт працаваў на знос, з астатніх сваіх сілаў... І жыў у гэтым доме недзе за паўгода да адыходу свайго ў іншы свет... Яшчэ з каштоўных экспанатаў я хацеў бы назваць вось гэты сямейны ручнік Багдановічаў. Яго сваімі рукамі спляла бабуля Максіма па матчынай лініі Тацццяна Восіпаўна Мякота. Яму каля 150 гадоў. Ён у нас, як любая музейная рэч, сімвалізуе шлях вяртання Максіма на Бацькаўшчыну, на Беларусь, у 1916 годзе.

**— А вось злева ад батлейкі я бачу на стэндзе цымбалы...**

— Яны ўваходзяць у экспазіцыю музея, як элемент батлейкі. Справа ў тым, што батлейка — гэта не толькі тэатр, яна заўсёды суправаджалася так званай траістай беларускай музыкай: цымбалы, дудка і скрыпка... Дарэчы, цымбалы гэтыя падараваў нам Максім Лужанін, ім больш чым сто гадоў...

**— Што ў планах кіраўніцтва «Беларускай хаткі»?**

— У нас няма так званых «перспектыўных планаў». Але нешта назваць магу. Будзем праводзіць вечарыну, прысвечаную сумнай чарнобыльскай гадавіне, будзем адзначаць і пяцігоддзе адкрыцця гэтай хаткі, як філіі музея Максіма Багдановіча. Думаем арганізаваць у Ракуцёўшчыне вялікае свята рэспубліканскага маштабу на дзень Незалежнасці ў ліпені — думаю, што Незалежнасць у нас усё-ткі не адбяруць. Будзем запрашаць да сябе дзеячаў мастацтваў, арганізоўваць сустрэчы з паэтамі, бардамі...

**— Вам удалося стварыць жыццёвую атмасферу часоў Максіма Багдановіча... Скажыце, а ці не адчуваеце вы часам тут яго прысутнасць, ці здараецца нешта містычнае?**

— Адзін раз я праводзіў экскурсію і толькі падышоў да фотаздымка Максіма Багдановіча і стаў распавядаць, аднекуль з'явіўся матылёк і стаў лётаць. Гэта быў якраз той момант экскурсіі, калі я згадваю захапленне Максіма Багдановіча вершамі Поля Верлена і цытую яго верш:

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні агалёк,*
*Б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

Гэта сапраўды было для мяне і вельмі містычна, і сімвалічна, быццам бы ў гэтым матыльку абудзілася сама душа Максіма, бо ты ж ведаеш сама, як ён марыў памерці на радзіме, а апошні прытулак займеў на чужыне...

**— Тым не менш, на Радзіме ёсць людзі, якія захоўваюць памяць пра паэта і «вяртаюць» яго на Беларусь. Дзякуй табе, Едрусь, за гутарку, і ад імя «Нашага слова» жадаем «Беларускай хатцы» доўгага і плённага жыцця. Няхай яна ніколі не мяняе сваёй назвы і свайго прызначэння.**



Фотаэцюд Вільгельма ДУБІЛОВІЧА.

## І смех і грэх

### Пачутае «У Лявона»

**З'елі пуд солі**

— А дзе ж твая сяброўка, — пытаецца знаёмая ў Лёлі. — Вы ж былі такімі неразлучнымі, што дзіўна бачыць цябе адну.

— Ды кончыўся ўжо той выслоўны пуд солі.

**Адзінае**

Госця шынка прызнаецца:

— Адзінае сапраўднае задавальненне маю, калі трачу грошы...

— Чужыя! — удакладняе яе сяброўка.

**Песіміст**

— Шаноўныя сябры! Нарэшце маем вясну. Сцеражыцеся закахацца. Каханне — гэта самая страшная хвароба, — бурчыць наведвальнік шынка.

— Але, пакутуючы ад гэтай хваробы, чалавек лётае нібы на крыллях, — падказвае яму сябра.

**Аптымісты**

Да бывальца шынка, вядомага пераважна з таго, што ён — аптыміст і яму заўсёды шанцуе, звяртаецца знаёмы:

— Буду вашамосцю вельмі ўдзячны, калі вашамосць пазычыць мне сто долараў. Вашамосцю, чуў я, так шанцуе, што, верагодна, я калісь аддам пазычаныя грошы.

Развяселены такім зваротам, аптыміст даў знаёмаму сто долараў.

**Парада**

Госця шынка скардзіцца прыяцельцы:

— Прашу доктара, каб навучыў дачку асцерагацца мужчын, а ён паглядзеў на яе — а дзяўчынка мая, як ты ведаеш, нібы з цеста зьлеплена, — дый пытае:

— А што яна есць?

— Пячэнне, булачкі з маслам... А пры чым тут яда? — кажу я.

А доктар замест парады павучае мяне:

— Ёй, шаноўная, трэба як агню асцерагацца перш салодкага цеста.

### У старых фаліянтах

## Велікодны стол

Запрасіў аднойчы пана гетмана Тарноўскага за велікодны стол адзін багаты мешчанін. Яснавяльможны і яго сябры ўбачылі ў вялікім пакоі пасярэдзіне дубовы стол, за які, мо, капу людзей пасадзіць можна. А на стале! На шасці срэбных місах — кумпякі. На іншых шасці — парасяты печаныя, кілбасы — на чатыры локці даўжынёй, перасыпаныя пісанкамі. Паміж тымі місамі стаялі фігуры, выпечаныя з цеста: Понцій Пілат, пан Езус з харугваю, а над ім — анёл на тонкім дроціку падвешаны — нібы ляціць у неба. Побач — дванаццаць апосталаў — усе як жывыя, хоць і з цеста. Тут жа стаяў баран, таксама з цеста печаны, памерам з жывую авечку. А вочы ў яго — гэта былі два брыльянты, кожны памерам з арэх. Далей стаялі срэбныя кружкі з воцатам, алеем, чатыры збаны старога мёду, абстаўленыя пазалочанымі чарачкамі. Стаяла ў шкляных збанох і віно.

...Час згадаць і самыя важнейшыя прысмакі, гэта значыць, калачы, булачкі. Асабліва здзіўляў адзін вялізны калач авальны, можа са тры локці даўжынёй, калі не болей, тоўсты, на дзве пядзі. А ў сярэдзіне ў ім — ставок з белага мёду, і выглядалі з гэтай вады рыбкі і німфы, што купаліся, а купідон страляў у іх з лука. На тым стаўку плавалі яшчэ срэбныя лодачкі з цукеркамі, з заморскімі ягадамі і садавінай — мабыць, усёй, што Бог людзям даў...

Гэтае апісанне паходзіць з часоў каралявання Жыгімонта Аўгуста. Такія пышныя абеды ў хуткім часе дачакаліся забароны. Прыкладам, у Гданьску дзеля абмежавання занадта багатых і гучных баляванняў гарадская рада вызначыла колькасць талерак, якія можна было паставіць на стол: багаты мешчанін мог падаць стравы не больш чым на дваццаці пяці талерках, бедны — на васьмі. Але і тут знайшлі выйсце — ставілі на стол такі посуд: з кожнага магло есці некалькі чалавек.

Вычытаў З.С.

### Пародыі

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Бясконцасць сонца

*А сонца — наросхліст.*
*Павек фіранкі*
*плавіць сонца.*
*Сонца тчэ*
*у мільён нітоў аснову.*
*Сонца нібы язь падажры.*
*Ад бабуль і матуль пакрыёма*
*паглядаем з мальбой на сонца...*
*Там у засені саду ветлай,*
*дзе у сонца самотны прыжмур...*
*Сонца мне — мільён усмешак.*
*Я жыву, і Сусвет сузіраю,*
*і лагоджу паглядам сонца.*
*Як неба сонцам-агнямётам*
*Наўспрак палеткі спапяліла.*

**Эдуард Акулін.** Пяшчота лiўня.

Сонца зіркне з-за аблокаў,
мякка шорхне па спіне.
Сонца поруч, сонца збоку,
сонца ўперадзе мяне.
Сонца песеньку заводзіць.
маладых вядзе на круг,
на каньках ляціць па лёдзе
і з касой ідзе на луг.
То гуляе на падгорку,
то бяжыць чарговы крос.
Чырвіць шчокі адвячорку,
ранку пэндзлем мажа нос.
Паглядзіць у задуменні
з вышыні на араллю
і дзядоўнікі-прамені
шле на грэшную зямлю.
Сонца грае адмыслова,
без яго не пражывеш.
Сонца ў літарах і ў словах, —
ну які ж без сонца верш!

### Афарызмы

Калі асабістае шчасце становіцца адзінай мэтай жыцця, жыццё неўзабаве траціць свой сэнс.

*Рамэн Ралан.*

Добрае выхаванне заснавана на тым, каб спалучыць дасканалае ўяўленне пра сябе з паважлівым уяўленнем пра іншых.

*Марк Твэн.*

Каханне залежыць ад прылукі. Адных амур раніць стралой, іншых ловіць сецяю.

*Уільям Шэкспір.*

Музыка — гэта люстэрка. Адбіваецца ў ім колер часу.

*Іегудзі Мянухін.*

З усіх чалавечых ведаў найменш развітая веда пра сужонства.

*Анарэ Бальзак.*

Ніхто не можа пачувацца адначасова адказным і пазбаўленым надзеі.

*Антуан дэ Сант-Экзюперы.*

Шчырасць даступная усім, але няшмат хто імкнецца да яе.

*Жуль Рэнар.*

Маўчанне — прыяцель, які ніколі не здрадзіць.

*Канфуцый.*

Не ты марнуеш час, гэта час марнуе цябе.

*Джэйн Фолэр.*

Няма спосабу, каб прыгладзіць вожыка.

*Арыстафан.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 364

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3182 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 1.04.1996 г. у 15 гадзін.